Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 33 (4936) 18 жніўня 2017 г.


Конкурс — шлях да зорак 5


Гутаркі з чараўнікамі 10-11


Пясок для фантазій 12


Што ў кейсе? 13


Песня Цітовіча 15

## ХЛЕБНЫЯ СЛОВЫ

***Адценне слоў —***
***не глупства,***
***Ты ім не пагарджай.***
***Скарынка. Скіба.***
***Луста.***
***Акраец. Каравай.***

***Акраец — шлях, дарога***
***І зайцаў хлеб лясны.***
***Скарынка — сум,***
***трывога***
***І боль былой вайны.***

***Здараецца, вядома,***
***Што, выпіўшы ў гасцях,***
***Грызе скарынку дома***
***Пахмурны халасцяк.***

***А скіба — дзень вясновы.***
***Ралля. Плугі. Сяўба.***
***Наш хлеб — жыцця***
***аснова,***
***Працяг і барацьба.***

***А луста — слова***
***сытнае,***
***Духмянае і шчодрае.***
***Яно ад маці — сітнае***
***Ці наздравата-чорнае.***

***А каравай — вясельнае,***
***Святочнае яно.***
***На ручніку нясе яно***
***І радасць, і віно.***

***І справа тут не ў ежы,***
***А ў смачным змесце слоў,***
***І ў жытным ветры***
***свежым,***
***І ў звоне каласоў...***

**1976 г.**

# ЗЕРНЕ НА РОДНУЮ ГЛЕБУ

## ад паэта Пімена Панчанкі

**На адлегласці часу ўсе класікі здаюцца нам аднолькава далёкімі: і Купала, Колас, Багдановіч, і тыя, хто лічыў сябе іх вучнямі і спадкаемцамі. Аддаючы даніну павагі ўшанаваннем юбілейных дат, перавыданнем кніг выбраных твораў, мы не заўсёды задумваемся, як часта цытуем сваіх класікаў у штодзённым жыцці. Аднак самае каштоўнае — адчуванне сапраўднай, жывой, а не хрэстаматыйнай неўміручасці творчых запаветаў.**


*1973 г.*

23 жніўня літаратурная супольнасць адзначыць 100-годдзе з дня нараджэння Пімена Панчанкі — народнага паэта Беларусі, дыялог з якім вядуць праз дзесяцігоддзі нашы сучаснікі. І калі ў школьных аўдыторыях па-ранейшаму гучаць радкі з вершаў «Родная мова» і «Той дзень прапаў і страчаны навекі», то маладое пісьменніцкае пакаленне часцей згадвае яго творы апошніх гадоў. Са скрушнымі, роспачнымі радкамі верша «Развітанне», які завяршаецца зваротам да Янкі Купалы, згаджаюцца, спрачаюцца, пераасэнсоўваюць бясконца... І гэта сімвалічнае пацвярджэнне таго, што «праўда жыцця, праўда пачуццяў», выяўленне якіх былі для Пімена Панчанкі найвышэйшым творчым ідэалам, вытрымалі выпрабаванне часам. Ужо ў пачатку новага стагоддзя, у 2003 годзе, у мінскай сярэдняй школе № 199 быў адкрыты музей народнага паэта Беларусі, супрацоўнікі якога знаёмяць сваіх вучняў і гасцей з жыццёвым і творчым шляхам Пімена Панчанкі: кожнае новае прачытанне нясе новыя адкрыцці сэнсаў.

Мы добра ведаем Панчанку-публіцыста, а вось адкрыццё Панчанкі-лірыка, мабыць, яшчэ наперадзе. Шчыры, праўдзівы, самаахвярны ў жыцці і творчасці, народны паэт шчодра рассыпаў зерне родных слоў па літаратурнай ніве, каб мы, сённяшнія, мелі багаты ўраджай:

*Да цябе, да знаёмых рабін,*
*Дабягу і скажу няголасна:*
*«Я пачуў, я прыйшоў, бо любіў.*
*Быць табе сярпом,*
*а мне коласам».*


*Фота Кастуся Дробава.*

*Асабістыя рэчы Пімена Панчанкі, прадстаўленыя ў музеі паэта ў мінскай СШ № 199.*

**Працяг тэмы на стар. 6-7 ▶**

## Пункцірам

✔ Кіраўнік франка-беларускай асацыяцыі «Жыццё ў музыцы» Георгій Сасноўскі ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Адпаведны ўказ падпісаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Георгій Сасноўскі ўдастоены ўзнагароды за значны асабісты ўклад у папулярызацыю айчыннай культуры за мяжой і падтрымку маладых беларускіх музыкантаў.

✔ Музей фартыфікацыі і ўзбраення плануецца стварыць на тэрыторыі V форта Брэсцкай крэпасці. Ужо распрацоўваецца канцэпцыя пастаяннай экспазіцыі, галоўная задача якой — расказаць пра гісторыю Брэст-Літоўскай крэпасці як аб унікальным фартыфікацыйным збудаванні, паказаць, як выглядаў V форт у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Былую моц крэпасці наглядна прадэманструюць рарытэтныя фатаграфіі, планы і чарцяжы.

✔ У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі на выстаўцы да 950-годдзя Мінска прадстаўлены фатаграфіі Мінска 1930 — 1960 гадоў. У экспазіцыі — 32 арыгінальныя фатаграфіі і фотакопіі з музейнага збору. Яны датуюцца 1930 — 1960 гадамі — часам актыўнага будаўніцтва і аднаўлення Мінска і належаць вядомым беларускім мастакам: керамісту Мікалаю Міхалапу і вядомаму графіку Анатолю Тычыне. Многія з гэтых здымкаў ніколі не публікаваліся.

✔ Мінск у творах беларускіх мастакоў розных пакаленняў прадстаўлены на выстаўцы «Горад. Архітэктура. Мы» да 950-годдзя сталіцы ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. У экспазіцыі — больш як 90 твораў жывапісу, графікі і скульптуры з калекцыі музея. У адзінай выставачнай прасторы прадстаўлены работы беларускіх мастакоў розных пакаленняў, мастацкіх традыцый і стылявых арыенцірах, якія створаны за стагоддзе і вельмі па-рознаму прадстаўляюць нашу сталіцу.

✔ У вёсцы Высокае Бярозаўскага раёна прайшоў экалагічны фестываль «Спораўскія сенакосы — 2017». Асноўнай часткай мерапрыемства стаў традыцыйны чэмпіянат па ручным сенакашэнні, які быў праведзены сёлета 11-ы раз. Таксама ў час экафестывалю чацвёрты раз у Беларусі прайшлі спаборніцтвы па футболе на балоце. У ліку арганізатараў мерапрыемства — Бярозаўскі райвыканкам, рэспубліканскі біялагічны заказнік «Спораўскі», прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі.

✔ Заўтра ў Старых Дарогах пройдзе абласное свята-конкурс па ткацтве «Матчыны кросны». Чакаецца, што мерапрыемства, галоўная мэта якога — захаванне і адраджэнне традыцый народнага ткацтва, збярэ амаль 160 удзельнікаў. Пачнецца свята ўрачыстым шэсцем, у якім кожная дэлегацыя прадставіць адметны ткацкі выраб свайго рэгіёна. Запланаваны выстаўка-конкурс работ, загадзя падрыхтаваных да свята, і конкурс на хуткасць і якасць ткацтва.

*З нагоды*

# БЕЛАРУСКІЯ КНІЖНІКІ Ў ПАДНЯБЕСНАЙ

**22 жніўня пачынае работу чарговы Пекінскі кніжны кірмаш. Па традыцыі возьмуць удзел у ім і беларускія кніжнікі.**

Дэлегацыю, якая днямі адпраўляецца ў КНР, складаюць прадстаўнікі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, «Белкнігі», «Белсаюздруку», «Брэстаблсаюздруку», «Віцебскаблсаюздруку», выдавецтваў «Адукацыя і выхаванне», «Пачатковая школа». З просьбай пракаментаваць падзею мы звярнуліся да начальніка ўпраўлення выдавецкай дзейнасці і кнігагандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алены Паўлавай. І вось што пачулі ў адказ:

— Удзел у Пекінскім кніжным кірмашы для беларусаў традыцыйны. Мы пастараемся на невялікай плошчы беларускага стэнда паказаць як мага больш кніг многіх айчынных выдавецтваў. Будзем прэзентаваць і выданні, якія прысвечаны кітайскай літаратуры: адразу ажно дзевяць кніг серыі «Светлыя знакі: паэты Кітая». Дарэчы, толькі што выйшаў з друку зборнік вершаў паэта-рамантыка мінулага стагоддзя Сюй Чжымо на беларускай і кітайскай мовах. Вязём з сабой і рэпрадукцыі работ беларускага мастака Каміля Камала, які афармляе кнігі серыі «Светлыя знакі». Пакажам на выстаўцы і іншыя кнігі Выдавецкага дома «Звязда» на кітайскую тэму — і зборнік «Стагоддзе на знаёмства», і даследаванне беларускага вучонага-міжнародніка Віктара Герменчука, прысвечанае сусветнаму ўспрыманню кітайскай палітыкі, кітайскага дзяржаўнага будаўніцтва, і зборнік успамінаў беларускіх дыпламатаў, якія працавалі ў КНР у розныя гады.




Фота Кастуся Дробава.

У праграме работы беларускай дэлегацыі — перамовы з кітайскімі выдаўцамі і паліграфістамі, сустрэчы з пісьменнікамі і перакладчыкамі.

Нас чакаюць у адным з аўтарытэтных пекінскіх выдавецтваў на прэзентацыі шматтомнай работы па кітайскай ідэалогіі і культуры, — працягвае Алена Савельеўна. — Гэты даволі грунтоўны шматтомнік ужо выдадзены не толькі на кітайскай, але яшчэ і на іспанскай, армянскай, непальскай і польскай мовах. Будзем весці перамовы пра выданне гэтай кнігі і па-беларуску. Папярэдне мы ўжо вялі перапіску з кітайскімі калегамі на гэтую тэму. З кітайскага боку ўдзел у перамовах прымуць дырэктар дэпартамента па пытаннях кіравання прымяненнем вуснай і пісьмовай мовамі Міністэрства адукацыі Кітая Цянь Лісінь, партыйны сакратар Пекінскага ўніверсітэта замежных моў Хань Чжэнь, прарэктар Пекінскага ўніверсітэта замежных моў Цзя Дэчжонь, генеральны дырэктар выдавецтва Цай Цзяньфэн і іншыя кітайскія калегі. Абавязкова сустрэнемся з даўнім добрым сябрам і перакладчыкам беларускай, рускай і ўкраінскай літаратур Гао Манам. Пра яго часта пішуць у Беларусі ў апошнія гады. Спадзяюся, што ён дасць нам парады і па іншых стасунках з кітайскімі літаратарамі. Тым больш што да выдання ў Беларусі запланавана новая паэтычная анталогія твораў 100 паэтаў Кітая XX стагоддзя. Кніга прадоўжыць ранейшы праект — «Пад крыламі Дракона: Сто паэтаў Кітая». Анталогія была выдадзена ў 2012 годзе тыражом 2500 экзэмпляраў, за якую перакладчык Мікола Мятліцкі быў адзначаны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

*Фэст*

# Фармат і нефармат

## Адметныя з'явы ў беларускай драматургіі представяць на фестывалі ў Бабруйску

**Рэспубліканскі фестываль нацыянальнай драматургіі імя В.І.Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску вызначыўся са спектаклямі, якія будуць прадстаўлены ў дзвюх конкурсных праграмах — «Спектакль тэатра драмы» і «Эксперымент».**

Новы фармат конкурсу прадугледжвае ўдзел спектакляў паводле твораў беларускіх драматургаў, што ішлі ў мінулых і ідуць у бягучым рэпертуары айчынных тэатраў. За адбор спектакляў на фестываль у Бабруйск адказвала экспертная камісія. Паводле яе рашэння, у конкурсе «Спектакль тэатра драмы» будуць прадстаўлены:

**«Пясняр»** (аўтар В.Дранько-Майсюк, рэжысёр В.Еранькова), пастаноўка Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага;

**«Карона з кахання»** (А. Дзялендзік, рэжысёр В. Расстрыжанкоў), Мінскі абласны драматычны тэатр г. Маладзечна;

**«Кропкі на часовай восі»** (Дз. Багаслаўскі, рэжысёр Т. Траяновіч), Магілёўскі абласны тэатр імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча, Бабруйск;

**«Тарас на Парнасе»** (С. Кавалёў, рэжысёр В. Сявец), Слонімскі драматычны тэатр;

**«Сіндром Медэі»** (аўтар Ю.Чарняўская, пастаноўка К. Аверкавай), Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі;

**«Кар'ера доктара Рауса»** (аўтар В. Марціновіч, рэжысёр А. Гарцуеў), Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі.

Конкурс у праграме «Эксперымент» чакаецца не менш інтрыгуючы: тут сыдуцца гучныя пастаноўкі апошняга часу:

**«Опіум»** (аўтар В. Каралёў, пастаноўка А. Марчанкі) Цэнтра візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн»;

**«Ладдзя Роспачы»** (Ул. Караткевіч, А. Ляляўскі) Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек;

**«Камедыя Юдзіфі»** ( С. Кавалёў, А. Жугжда) Гродзенскага абласнога тэатра лялек;

**«Скарына»** (М. Руткоўскі, С. Варнас) Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра;



*Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску.*

**«Сіняя-сіняя»** (Ул. Караткевіч, І. Казакоў) Магілёўскага абласнога тэатра лялек;

**«Поле»** (П. Пражко, Дз. Ваўкастрэлаў), пастаноўка незалежнай тэатральнай групы з Санкт-Пецярбурга «Тэатр *post*».

Згодна з умовамі фестывалю, браць удзел у ім могуць прафесійныя тэатральныя калектывы і асобныя выканаўцы з замежных краін. Але асноўны акцэнт робіцца ўсё ж на актуальныя пастаноўкі беларускіх тэатраў. Рэспубліканскі фестываль нацыянальнай драматургіі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску сёлета пройдзе з 17 па 22 лістапада. Яго арганізатарамі з'яўляюцца Магілёўскі абласны выканаўчы камітэт, Бабруйскі гарадскі выканаўчы камітэт, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

**Марыя АСІПЕНКА**

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**23 жніўня** — *на літаратурную вечарыну «Рукапісы не гараць…» з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння паэта Пімена Панчанкі, дзе выступіць пісьменнік Мікола Леўчанка. Вечарына адбудзецца ў бібліятэцы-філіяле № 50 у мікрараёне Колас горада Быхава. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**25 жніўня** — *у літаратурную гасцёўню «Чароўныя фарбы лета» (па творчасці членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоля Прохарава і Ніны Кавалёвай). Імпрэза пройдзе ў Рэкцянскай сельскай бібліятэцы (аграгарадок Рэкта Горацкага раёна). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**26 — 27 жніўня** — *на энтаграфічнае свята «У госці да радзімічаў» з удзелам паэта Міколы Салаўцова, якое пройдзе на тэрыторыі аграгарадка «Радомля» Чавускага раёна. Пачатак а 11-й гадзіне.*

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Паразуменне праз пераклады

**Прыемная навіна прыйшла ў Саюз пісьменнікаў Беларусі з братняй Украіны: вядомы беларускі пісьменнік, паэт, мовазнаўца і перакладчык Міхась Пазнякоў абраны акадэмікам Міжнароднай літаратурна-мастацкай Акадэміі Украіны. Калегі з суседняй краіны адзначылі яго ўклад ва ўмацаванне беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей і перакладанне сучаснай украінскай паэзіі на беларускую мову.**



Фота Кастуся Дробава.

Міхась Пазнякоў.

Апошні час вельмі плённы для старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхася Пазнякова: за кнігі «У родным краі», «Гульнясловў», «Серабрыстыя чайкі» ён быў вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры 2016 года. Яго творы ўключаны ў школьныя падручнікі. Але прыходзяць яны і ў іншыя краіны — праз пераклады больш чым на 20 моў свету. І сам творца плённа працуе як перакладчык. Ён папулярызуе беларускую літаратуру сярод нашых суседзяў, напрыклад, праз пераклады на рускую мову Янкі Сіпакова, Івана Пташнікава, Васіля Ткачова, Уладзіміра Гніламёдава, Паўла Саковіча, Казіміра Камейшу. У сваю чаргу перакладае на беларускую мову скарбы сусветнага прыгожага пісьменства, сярод якіх творы В. Скота, М. Сервантэса, Х. Г. Андэрсана, Братоў Грым ды іншых аўтараў, у тым ліку сучасных.

Міхась Пазнякоў — лаўрэат 12 літаратурных прэмій, у тым ліку прэміі імя П. Броўкі, Я. Маўра, В. Віткі, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Міжнароднай прэміі ў галіне паэзіі. За літаратурную дзейнасць узнагароджаны 13 медалямі, у тым ліку высокай адзнакай Беларусі — медалём Францыска Скарыны.

**Падрыхтавала Марыя АСІПЕНКА**

*Супрацоўніцтва*

# ЖНІВО: КУЛЬТУРНА

**«Беларускі культурны жнівень» праходзіць у французскім рэгіёне Бургундыя з 6 па 19 жніўня. Такім чынам наша краіна прадстаўляе сябе праз культуру. І часам сапраўды не трэба шмат гаварыць, каб пераканаць у прывабнасці беларускага: калі ёсць што паглядзець, што і каго паслухаць.**

У Бургундыі гэтымі днямі слухаюць музыку з Беларусі. Па-першае, запланаваны 11 канцэртаў музычнага калектыву «Ведрыца» пад кіраўніцтвам дырыжора Алены Цыганок (у яго складзе выкладчыкі ўстаноў музычнай адукацыі Беларусі). Па-другое, адметны канцэрт гітарыста, выкладчыка Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Яўгенія Грыдзюшкі.

Глядзяць жыхары Францыі і на Беларусь — праз фотавыстаўку Яўгенія Грыдзюшкі, які да таго ж прадстаўляе наш погляд на жыццё простых французаў, якое ён таксама ўхапіў праз аб'ектыў. У той час як мастачка Святлана Рыжыкава частку сваіх твораў прысвяціла гораду Тонару. Наогул кантакты прадстаўнікоў дзвюх культур развіваюцца ў тым ліку дзякуючы прадстаўнікам беларускай дыяспары. У прыватнасці „Беларускі культурны жнівень» магчымы дзякуючы ініцыятыве і актыўнасці Марыны Блешчык, імпрэзу падтрымалі мясцовыя ўлады і Пасольства Беларусі ў Францыі. Сёлета пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка правёў сустрэчы з прадстаўнікамі рэгіянальных улад, асацыяцыі Франка-славянскага сяброўства.

**Марыя АСІПЕНКА**

*Выстаўка*

# Як шуміць акіян?

## Міфічную Атлантыду аднавілі ў цэнтры Мінска

Падводны горад Янагуні, які быў адкрыты ў Японскім моры, вярэдзіць уяўленне цікаўных асоб ва ўсім свеце: даследчыкі старажытных цывілізацый мяркуюць, што яго ўзрост не менш за 10 000 гадоў. Але нам, жыхарам раўніны, якія не займаюцца дайвінгам і не могуць дабрацца да Японскіх выспаў, стварылі магчымасць наведаць падводны горад, які хавае шмат таямніц часоў міфічнай Атлантыды. Таму і выставачны праект Японскага Цэнтра культуры і спорту «Дзэнрын канкэй» (што ў перакладзе азначае «добрасуседства») называецца «Атлантыда». І яна месціцца ў цэнтры беларускай сталіцы ў «Доме-музеі І з'езда РСДРП».



Апынуцца на дне акіяна, увідзь жыхароў тагачаснага горада і пабачыць марскіх пачвар кшталту падводнага дракона і японскага вадзяніка дазволіць антураж, які стварае эфект марскога дна. Экспанаты насамрэч не толькі японскія, яны сабраны з розных краін Азіі (Інданезіі, Гватэмалы, Шры-Ланкі, Папуа-Новая Гвінея). Да таго ж прадметы апрацаваны фарбамі такім чынам, што ёсць адчуванне зіхацення — для эфекту прысутнасці. Падсветка робіцца ўльтрафіялетавымі лямпамі, якія да таго ж маюць лекавы эфект. Захапляльнасць вандроўкі яшчэ і ў тым, што гукі акіяна і мелодый іншых народаў дапамагаюць стварыць адчуванне таго, што наведвальнікі недзе далёка ў экзатычных краінах на адпачынку.

**Марыя АСІПЕНКА**

*Дайджэст*

• Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прадставіць на выстаўцы да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання Евангелле 1600 года, паведамляе БелТА. Гэтае Евангелле найбольш старажытнае з 15 беларускіх выданняў, якія захоўваюцца ў музеі. Яно з'явілася ў віленскай друкарні братоў Мамонічаў, мае сігнатуры 1600 года, а таксама чатыры гравюры евангелістаў, дэкаратыўныя застаўкі і канцоўкі барочнага стылю. Кніга была наноў пераплецена ў 1942 годзе і цяпер мае вокладку з металічнымі накладкамі. Рэстаўрацыяй азначанага Евангелля займаецца высокакваліфікаваны спецыяліст Андрэй Крапіўка, які ўжо працаваў з выданнямі Францыска Скарыны, многія з якіх знаходзяцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

• Карціны беларускіх мастакоў сёлета выпраўляюцца на выстаўку ў Кітай. Генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў паведаміў, што Пекін сустрэне беларускую экспазіцыю 23 кастрычніка. У сталіцу Кітая трапяць 57 палотнаў беларускіх аўтараў, дзе на працягу двух месяцаў на іх можна будзе паглядзець у галерэі Нацыянальнага мастацкага музея Кітая. У наступным годзе плануецца іншы абмен: карціны з Нацыянальнага мастацкага музея Кітая прыедуць у Мінск да беларускага гледача.

• У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адкрылася выстаўка партрэтаў класіка «Спяшайцеся з паэтам стрэцца…». Аўтарамі карцін з'яўляюцца вядомыя беларускія мастакі Валянцін Волкаў, Уладзімір Сулкоўскі, Святаслаў Федарэнка, Георгій Паплаўскі. Упершыню пакажуць раней невядомы графічны партрэт Якуба Коласа, які з'явіўся ў перыёдыцы на вокладцы «Беларускага ілюстраванага календара» ў Буэнас-Айрэсе ў 1944 годзе. Выстаўка «Спяшайцеся з паэтам стрэцца…» — частка музейнага праекта «Словы і рэчы: невядомыя калекцыі», які арганізавалі да 135-годдзя з дня нараджэння пісьменніка.

• У Вялікім Ноўгарадзе пачаўся мастацкі праект «Тры Сафіі». На працягу акцыі маладыя мастакі з Беларусі, Расіі і Украіны напішуць падчас сумесных пленэраў выявы Сафійскіх сабораў у Полацку, Вялікім Ноўгарадзе і Кіеве. Выніковая выстаўка, дзе прадставяць свае работы мастакі, адкрыецца ў Полацку 2 верасня і будзе прымеркавана да ўрачыстасцей у гонар 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і 1155-годдзя горада Полацка. Пасля карціны пераедуць ва Украінскі фонд культуры, адтуль — на Форум творчай і навуковай інтэлігенцыі краін СНД, які адбудзецца ў лістападзе ў Маскве.

• Напрыканцы жніўня ў Лондане на чатыры гады змоўкнуць званы гадзіннікавай вежы Вестмінстэрскага палаца, вядомай ва ўсім свеце як Біг-Бэн. Насамрэч, Біг-Бэн — гэта назва найвялікшага звана вежы, які важыць больш за 13 тон і кожную гадзіну адбівае пэўную колькасць часу. Гадзіннік на Вежы Лізаветы і далей будзе паказваць лонданцам дакладны час, але моўчкі: у сувязі з рамонтнымі работамі званы адключаць ад механізма гадзінніка да 2021 года. У апошні раз званы гадзіннікавай вежы спыняліся ў 2013 годзе, калі краіна развівалася з былым Прэм'ер-міністрам Брытаніі Маргарэт Тэтчэр.

ЛіМ КАЛЯНДАР

**14 жніўня** — 135 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Мікульчыка (1882 — пасля 1918), беларускага паэта.

**14 жніўня** — 120 гадоў з дня нараджэння Сілана Гусева (1897 — 1986), беларускага празаіка.

**15 жніўня** — 95 гадоў з дня нараджэння Галіны Уладамірскай (1922 — 2002), беларускай актрысы, рэжысёра.

**15 жніўня** — 95 гадоў з дня нараджэння Пятра Харкова (1922 — 1983), беларускага драматурга, паэта, публіцыста, кінадраматурга. Пісаў на рускай мове.

**15 жніўня** — 90 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Крывіцкага (1927 — 2017), беларускага мовазнаўца.

**15 жніўня** 75 гадоў споўнілася Івану Курачыцкаму, беларускаму майстру дэкаратыўна-ўжыткова мастацтва.

**15 жніўня** 70-годдзе адзначыў Мікалай Таранда, беларускі жывапісец.

**17 жніўня** — 110 гадоў з дня нараджэння Васіля Каваля (сапр. Кавалёў Васіль Пятровіч; 1907 — 1937), беларускага празаіка.

**17 жніўня** — 110 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Камінскага (1907 — 1989), беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. З 1980 года жыў у Канадзе.

**17 жніўня** — 110 гадоў з дня нараджэння Здзіслава Стомы (1907 — 1992), беларускага акцёра, народнага артыста БССР, народнага артыста СССР.

**18 жніўня** — 95 гадоў з дня нараджэння Усевалада Кухты (1922 — 1991), беларускага рэжысёра.

**18 жніўня** — 70 гадоў з дня нараджэння Мікалая Трухана (1947 — 1999), беларускага акцёра, рэжысёра.

**18 жніўня** 50-гадовы юбілей адзначае Канстанцін Селіханаў, беларускі графік, скульптар.

**19 жніўня** — 105 гадоў з дня нараджэння Барыса Мікуліча (1912 — 1954), беларускага празаіка, крытыка.

**20 жніўня** — 75-годдзе адзначыць Вячаслаў Шамшур, беларускі графік, мастацтвазнаўца.

Калектыў Вялікага тэатра Беларусі выказвае шчырае спачуванне дырэктару Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганне Вячаслаўне Запартыка ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю МУЖА.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырае спачуванне паэтэсе Ніне Васільеўне Галіноўскай з прычыны смерці сястры Лідзіі КУРДЗЯНКОВАЙ.



*На вуліцах Гарадка.*

# Гаючыя крыніцы Магілёўшчыны

**На Магілёўшчыне ёсць нямала мясцін, якія прываблівацюь падарожнікаў. У вёсцы Жылічы Кіраўскага раёна турыстаў чакае шыкоўны палац князёў Булгакаў — помнік архітэктуры позняга класіцызму, які выдатна захаваўся да нашага часу. Гэты палац лічыцца адным з самых вялікіх на Беларусі! Паломнікі добра ведаюць Свята-Успенскі манастыр, заснаваны ля цудадзейнай крыніцы мсціслаўскім князем Лугвенам, сынам вялікага князя Альгерда. У савецкі час манастыр быў амаль разбураны, але пачынаючы з 2003 года большасць манастырскіх будынкаў адрэстаўравана.**

**Многія вёскі і мястэчкі Магілёўшчыны маюць даўнюю гісторыю, а значыць, тут таксама можна адшукаць цікавыя напаміны пра наша мінулае.**

## 1. ВЫДРАНКА (КРАСНАПОЛЬСКІ РАЁН)

Вёска Выдранка знаходзіцца на беразе рэчкі Каўпіты, і людзі жылі тут яшчэ ў далёкай старажытнасці. Сведчанне гэтага — Выдранскае гарадзішча, выяўленае напрыканцы XIX стагоддзя. Археолагі сцвярджаюць, што людзі пасяліліся тут яшчэ ў раннім жалезным веку. Гарадзішча знаходзіцца на правым беразе ракі, а на левым, каля вёскі, можна агледзець курганны могільнік, дзе налічваецца больш за 50 насыпаў. Ёсць у Выдранцы і знакамітая крыніца з чысцюткай вадой.

Зорным часам Выдранкі было XIX стагоддзе. Калі Выдранскі маёнтак трапіў да пана Ягора Бараноўскага, то стаў адным з культурных цэнтраў рэгіёна. У Бараноўскага быў прыгожы палац, а ў ім — вялізная бібліятэка, дзе захоўвалася каля 10 тысяч кніг. Выдранская бібліятэка лічылася адной з найбуйнейшых у Еўропе.

У 1918 годзе бальшавікі разрабавалі палац і пачалі раздаваць бібліятэку мясцовым сялянам. Многія кнігі былі ўратаваны, і некаторыя з іх знаходзяцца цяпер у Нацыянальнай бібліятэцы, але больш за ўсё ў асабістых калекцыях. Гэтыя кнігі можна пазнаць па экслібрысе, дзе напісана «Бараноўскі. Выдранка». Адзін з экслібрысаў (з вывяай баброў) для Бараноўскага распрацаваў мюнхенскі мастак Бота Шміт.

Ягор Бараноўскі — губернатар Саратава і Уфы, вядомы абаронца сялян — меў дачку Марыю. Яна і стала апошняй гаспадыняй Выдранскага маёнтка. Сяляне згадвалі яе як добрую, гаспадарлівую пані. На яе грошы ў 1905 годзе была пабудавана драўляная царква па плане знакамітага архітэктара Барталамея Растрэлі. Асвяцілі царкву ў гонар Дзмітрыя Салунскага. Царква дзейнічала і падчас другой сусветнай вайны за фашыстамі, і ў ліхалецце за камуністамі.

У адной з Выдранскіх цэркваў святаром быў Іван Кернажыцкі. На пачатку XX стагоддзя ў яго нарадзіўся сын Кастусь, які стаў вядомым беларускім гісторыкам.

## 2. ВЕЙНА (МАГІЛЁЎСКІ РАЁН)

У Сярэднявеччы гэтая вёска звалася Вена. У Вялікім Княстве Літоўскім слова «вена» азначала матэрыяльнае забеспячэнне жонкі маёмасцю мужа. Першая згадка пра вёску адносіцца да 1560 года. Тады правядзілі рэвізію Магілёўскай воласці і ў інвентары пералічылі 25 населеных пунктаў, сярод якіх згадваецца і Вена. У сяле налічвалася аж 112 дымоў. На тыя часы гэта было вялізнае паселішча, цэнтр войтаўства, якому падпарадкоўваліся навакольныя вёскі.

З архіўных дакументаў вядома, што Вейнаўскі маёнтак у XVI ст. быў падораны Кіева-Пячэрскаму манастыру. Манахі Кіева-Пячэрскай лаўры здавалі яго ў арэнду Магілёўскаму замку.

Галоўная славутасць вёскі — царква, асвечаная ў гонар Пакрова Найсвяцейшай Багародзіцы. У 1760 годзе вейнаўскія ўніяты на месцы старой драўлянай царквы пачалі будаўніцтва новага мураванага храма. Гэтая царква ўнікальная, вельмі прыгожая, усе вуглы тут паўкруглыя. Уніяцкія дойліды вучыліся ў еўрапейскіх навучальных установах, былі выдатнымі майстрамі, таму імкнуліся адыходзіць ад шаблонаў і будаваць адметныя храмы.

## 3. ГАРАДОК (ГЛУСКІ РАЁН)

Адразу гэтае паселішча звалася Глускам. Пасля — Старым Глускам. Потым — Глускам Пагарэлым. І толькі на пачатку XIX стагоддзя на картах з'явіўся сённяшні Гарадок.

Кажуць, гэтае паселішча ўзнікла яшчэ ў XII — XIII стагоддзях, на тым месцы, дзе зліваюцца рэкі Красная і Пціч. У летапісных крыніцах Глуск згадваецца ў XV стагоддзі. Тады ў цэнтры Глускай воласці стаяў драўляны замак, уладальнікам якога быў князь Юрый Гальшанскі.

У першай палове XV стагоддзя Глуск належаў адразу і Астрожскім, і Гальшанскім. Хутка ім стала цеснавата. Тады Юрый Іванавіч Гальшанскі-Дубровіцкі вырашыў ніжэй па цячэнні Пцічы пабудаваць новы замак, які таксама назвалі Глускам. А каб не блыталі два Глускі, новы Глуск атрымаў назву Глуск-Дубровіцкі (менавіта ён сёння лічыцца раённым цэнтрам). Ранейшы замак пачалі зваць Глускам Старым.

У 1814 годзе, калі паселішча ўжо насіла назву Гарадок, тут пачалі на намоленым месцы будаваць новую царкву. Ініцыятарамі будаўніцтва былі шляхцічы Жылінскія. Кажуць, такім чынам яны вырашылі ўшанаваць памяць землякоў, якія ўдзельнічалі ў вайне 1812 года.

Асвяцілі храм у гонар Казьмы і Дзям'яна. Цяпер Казьмадзям'янаўская царква лічыцца помнікам драўлянага дойлідства пачатку XIX стагоддзя.




*Пятніцкая крыніца ў Палыкавічах.*

У 1846 годзе Гарадок атрымлівае статус мястэчка. А незадоўга да гэтай знамянальнай падзеі, у 1840 годзе, у суседнім маёнтку Калацічы на-радзіўся шляхціч Альгерд Абуховіч, будучы пісьменнік.

## 4. МІЛАСЛАВІЧЫ (КЛІМАВІЦКІ РАЁН)

Мілаславічы — адно з найстаражытнейшых паселішчаў Клімаўшчыны. Яно знаходзіцца ў бойкім месцы і здаўна было цэнтрам войтаўства. У 1830 годзе гэта быў цэнтр воласці, тут працавалі тры вадзяныя млыны, маслабойня, хлебазапасны магазін. Быў добра развіты кавальскі промысел. Два разы на год у Мілаславічах ладзілі кірмашы.

У 1887 годзе ў мястэчку была пабудавана праваслаўная царква, асвечаная пад тытулам Ушэсця Гасподняга. Падчас другой сусветнай вайны на пачатку жніўня 1941 года ля мястэчка быў моцны бой. Царква была пашкоджана, але яе адрамантавалі, і ўсю вайну тут ішлі набажэнствы. Пасля ж другой сусветнай вайны храмператварылі ў калгасны склад і давялі да амаль поўнага разбурэння. Узняў царкву з руін нямецкі пратэстант Адам Троер. Ён наведваў сем'і дзяцей, якія былі на аздараўленні ў Германіі пасля Чарнобыльскай трагедыі, і вырашыў дапамагчы братам-хрысціянам. Урачыста асвяцілі царкву Ушэсця Гасподняга 23 мая 2004 года.

Гучныя падзеі адбываліся ў Мілаславічах у 1917 годзе. Адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі тут быў створаны рэўкам. Але не ўсім спадабалася новая ўлада, і ў мястэчку ўспыхнула антыбальшавіцкае паўстанне, якое ўзнялі сыны міласлаўскага памешчыка Арлова. Гэта браты Уладзімір і Цімафей Арловы, а таксама гаспадар млына Фадзей Лукашэнка.

Паўстанцы выгналі з Мілаславіч усіх рэўкамаўцаў. Як пісала «Магілёўская праўда», мілаславіцкія бальшавікі далі тэлеграму ў Маскву да Леніна, і той загадаў, каб з Рослаўля прыслалі зброю і падмогу, што і было зроблена. Пасля баёў атрад братоў Арловых пакінуў Мілаславічы, яго далейшы лёс нам невядомы.

## 5. БЛАГАВІЧЫ (ЧАВУСКІ РАЁН)

Мясціна гэтая ў летапісах згадваецца ўпершыню ў 1560 годзе. Калісьці тут праходзіў старажытны шлях на Маскву. Месца было балоцістае, благое, і кажуць, што ад гэтага і пайшла назва паселішча. Ёсць у Благавічах старажытныя помнікі гісторыі — напрыклад, курган на ўскрайку вёскі, на якім ляжыць камянны крыж.

Калі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай Благавічы апынуліся ў Расійскай імперыі, то вёска стала ўласнасцю Івана Рымскага-Корсакава, фаварыта імператрыцы Кацярыны II. Напрыканцы XVIII стагоддзя Іван Мікалаевіч пабудаваў у вёсцы царкву, але праз стагоддзе храм ужо не змяшчаў шматлікіх вернікаў. Мясцовыя жыхары напісалі ліст да цара Мікалая II, каб той вылучыў грошы на пабудову новай цаглянай царквы. Станоўчы адказ быў дадзены толькі праз 6 гадоў. План храма на 700 чалавек распрацаваў епархіяльны архітэктар Камбураў — у старажытнарускім стылі са званіцай.

Царква была цёплая. Каб узімку прыхаджане не мерзлі, было зроблена 6 унутраных грубак. У 1904 годзе храм быў асвечаны ў гонар Мікалая Цудатворца і выдатна захаваўся да нашага часу.

## 6. ПАЛЫКАВІЧЫ (МАГІЛЁЎСКІ РАЁН)

За вёскай Палыкавічы на правым беразе Дняпра знаходзіцца гарадзішча з дзвюма пляцоўкамі і складанай сістэмай умацаванняў. Напярэдадні другой сусветнай вайны археолагі знайшлі тут фрагменты глінянага посуду, жалезныя наканечнікі стрэл, лязо сякеры, касцяныя шылы і іголкі. Спецыялісты зрабілі выснову, што людзі прыйшлі сюды па Дняпры і пасяліліся тут яшчэ ў жалезным веку, у I тыс. да н.э.

У летапісы вёска трапіла ў 1501 годзе (паселішча тады мела назву Палуйкавічы). У канцы XVII стагоддзя ў Палуйкавічах размяшчаўся палац шляхціча Казіміра Сініцкага — вельмі прыгожы, вымаляваны, з балясамі, заламі, брамамі... Але Сініцкі тут адпачываў нядоўга, будынак быў знішчаны падчас Паўночнай вайны

Пад канец XIX стагоддзя ў Палыкавічах пражывала каля 1000 жыхароў — гэта быў цэнтр воласці. Тут дзейнічала шпалерна-запалкавая фабрыка, цэхі па пляценні кошыкаў, цагельня. У 96 дварах выраблялі льняную тканіну. Была ў Палыкавічах і царква, дзе захоўваўся загадкавы летапіс Отмунцкага прыхода. З летапіса можна было даведацца шмат цікавага пра гісторыю вёскі, але падчас другой сусветнай вайны ён быў страчаны.

Палыкавічы з даўніх часоў славіліся святой крыніцай. Гэтая крыніца завецца Пятніцкая, бо названа ў гонар святой Параскевы Пятніцы — апякункі дзяўчат, жанчын і шлюбу. Лічылася, што кожная дзяўчына, жанчына павінна прыйсці да крыніцы ў пятніцу пешшу. Мужчыны ж прыязджалі забіраць сваіх матуль, сясцёр і жонак дахаты. У такія дні працаваў паром, дзейнічаў кірмаш, збіраліся старцы, спявалі псалмы. Паломнікі куплялі шклоўскія абаранкі і адорвалі старцаў.

Каля крыніцы заўсёды стаяла капліца. За Саветамі яе не стала, а пасля ліхалецця людзі, у асноўным жанчыны, пачалі хадзіць па хатах і збіраць грошы на храм. У 2000 годзе Палыкавіцкая капліца была асвечана ў гонар святой пакутніцы Параскевы Пятніцы.

**Юрый ЖЫГАМОНТ**

# Чалавек Слова




Фота Кастуся Дробава.

Помнік Якубу Коласу на Вайсковых могілках.

Пісьменнікі, мастакі, навукоўцы, бібліятэкары ды звычайныя аматары беларускай культуры збіраюцца разам на Ваенных могілках каля магілы Якуба Коласа, каб згадаць яго жыццё і нагадаць, наколькі жывая творчасць народнага паэта Беларусі.

— Сёння, у дзень памяці нашага слыннага паэта і пісьменніка, ёсць добрая нагода ўзгадаць і ацаніць ролю і значэнне Якуба Коласа ў жыцці беларускай нацыі, беларускага народа, беларускай літаратуры, мовы і культуры, — зазначыў член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі першы намеснік дырэктара па навуковай рабоце Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец. — Якуб Колас быў чалавекам сваёй эпохі. Ён нарадзіўся ў канцы XIX стагоддзя, і тая атмасфера нацыянальна-культурнага ўздыму, у якой прайшлі яго юнацкія і малядыя гады, на ўсё жыццё сфарміравала ў ім лепшыя якасці чалавека, грамадзяніна, патрыёта. Якуб Колас быў сведкам самых вялікіх і самых трагічных падзей XX стагоддзя, ён непасрэдна ўдзельнічаў у іх, але разам з тым заўсёды верна служыў роднай зямлі, літаратуры, беларускай мове.

Аляксандр Лукашанец зазначыў, што Якуб Колас застаўся ў гісторыі краіны не толькі як таленавіты пісьменнік і паэт, які пакінуў нам свае несмяротныя творы: «Сёлета, у Год навукі, дарэчы ўспомніць, што Якуб Колас быў сапраўдным навукоўцам: з першага дня існавання Акадэміі навук і да апошняга дня свайго жыцця быў яе нязменным віцэ-прэзідэнтам, стаяў у кагорце першых беларускіх акадэмікаў. Ён — аўтар першай методыкі беларускай мовы. Ідэі і напрацоўкі Якуба Коласа ляглі ў збор правіл правапісу і пунктуацыі 1959 года, які на паўстагоддзя забяспечыў адзінства беларускай пісьмовай мовы».

Падчас урачыстасцей згадалі навукоўцу, шчыльна звязанага з Якубам Коласам у жыцці і нават пасля смерці, — старэйшага сына літаратара Данілу Міцкевіча, чыя магіла знаходзіцца побач з магілай бацькі. Ён зрабіў неацэнны ўклад у справу захавання коласаўскай спадчыны, рупіўся пасля смерці бацькі пра яго творчыя здабыткі, стаў першым дырэктарам Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея імя Якуба Коласа. Цяперашні дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея імя Якуба Коласа Зінаіда Камароўская нагадала прысутным, што 3 лістапада адзначаецца 135-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа. Да гэтай значнай для гісторыі беларускай літаратуры даты ў музеі ўжо пачалі падрыхтоўку: плануецца шраг выставак і імпрэз у Беларусі і за яе межамі, ідзе арганізацыя серыі міжнародных навуковых канферэнцый «Каласавіны». Работа па ўшанаванні памяці творцы зараз ажыццяўляецца ў Літве і Узбекістане. Праз некалькі месяцаў на месцы, дзе ў Вільнюсе знаходзіліся рэдакцыі газет «Наша доля» і «Наша ніва», з'явіцца асобная памятная дошка з імем Якуба Коласа. Выява народнага паэта Беларусі сёлета ўпрыгожыць і сцяну дома ва Узбекістане, дзе жыў і працаваў творца.

У гонар Песняра гучалі не толькі словы ўдзячнасці і пашаны, але і вершаваныя радкі — сучасныя беларускія паэты прысвяцілі вершы тытану беларускай літаратуры. Побач з традыцыйнымі прамовамі выказалі і новыя ідэі. Так, увага наведнікаў гэтым разам была скіравана на тое, што няблага было б адкрыць новы мемарыял у парку імя Максіма Горкага, дзе да вайны стаяла коласаўская хата.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# ШЧУЧЫНСКІЯ АРХІВЫ

**Славамір Антановіч — чалавек, чыё імя ўжо ўпісана ў гісторыю беларускай літаратуры. Дзяржаўны і грамадскі дзеяч, вядомы пісьменнік, большасць твораў якога — гістарычныя раманы і дакументальныя аповесці. «Белкніга» прэзентавала новы гістарычны раман Антановіча «Дыверсант Сталіна». У рамане апісаны трагічны і яркі лёс легендарных разведчыкаў Аляксея Бацяна і Яўгена Беразняка, якія ўдзельнічалі ў выратаванні польскага горада Кракава.**




Фота Кастуся Дробава.

Славамір Антановіч на прэзентацыі кнігі «Дыверсант Сталіна».

— Цяжка мне далася гэтая кніга. Беразняк — Герой Украіны, а Бацян наогул рассакрэчаны быў толькі ў 95 гадоў, а цяпер яму 100, — расказаў Антановіч. — Проста так жа кнігі не напішаш. Калі няма інфармацыі, няма доступу да архіваў, нічога не возьмеш з галавы, бо гэта не паэзія, не вершы пра каханне.

Станаўленне Славаміра Антановіча менавіта як пісьменніка пачалося з кнігі «Пётр Машэраў». Дарэчы, Антановічу ўдалося папрацаваць у генеральнай пракуратуры, таму цяпер ён выдатна спалучае свае пісьменніцкія здольнасці з практычнай дзейнасцю. А пяць гадоў аўтар прысвяціў журналісцкай дзейнасці, працуючы ў газеце «Транспортный вестник».

— Ёсць яшчэ ў Беларусі сапраўдныя палкоўнікі. Славамір Валяр'янавіч — чалавек ад зямлі. Усё, што ён напісаў, — гэта любоў да тых мясцін, дзе ён нарадзіўся. За той час, што мы працавалі разам, ад яго вельмі часта гучала: «Ледзь што — паеду ў Шчучын!» — успомніла Таццяна Луцэвіч, галоўны рэдактар «Транспортного вестника».

Дарэчы, горад Шчучын прызнаў Славаміра Антановіча ганаровым жыхаром Шчучынскага раёна.

На прэзентацыю новай працы Антановіча завіталі генеральны дырэктар «Белкнігі» Аляксандр Вашкевіч, дырэктар выдавецтва «Харвест» Аляксандр Гладкі, а таксама заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Надзея Мікуліч.

**Ксенія ВЯДЗМЕДЗЬ**

Конкурс **«УРОКІ СУЧАСНАСЦІ»**

# БЕЛАРУСКІ КОСМАС

## праз апавяданне Раісы Баравіковай «Гальштучнік»



**Актуальнасць тэмы.** Каб сфарміраваць зацікаўленасць да фантастычных твораў беларускіх пісьменнікаў, прапануецца паглыбіць уяўленне вучняў пра будову Сусвету; пазнаёміць з гісторыяй засваення космасу; выхоўваць павагу да айчынных лётчыкаў-касманаўтаў.

**Твор, па якім праводзяцца заняткі.** Апавяданне Раісы Баравіковай «Гальштучнік» (са зборніка «Казкі астранаўта»). Заняткі праводзяцца для вучняў 6 класа.

**Арыгінальнасць правядзення ўрока.** Урок пачынаецца размовай пра фантастыку. Вучні расказваюць, якія творы можна назваць фантастычнымі, пералічваюць пісьменнікаў-фантастаў, удакладняюць па тлумачальным слоўніку значэнне слоў «фантастыка» і «астранаўт». Настаўнік адзначае, што некаторыя рэчы і дзеянні, якія некалі лічыліся фантастычнымі, цяпер — рэчаіснасць, без якой нельга ўявіць сучаснае жыццё. Значная колькасць незвычайных і захапляльных падзей і прыгод, апісаных у фантастычнай літаратуры, адбываецца ў космасе. Каб у вучняў склалася больш поўнае ўяўленне пра Сусвет, настаўнік прапануе пазнаёміцца з прэзентацыяй «Космас».

Вучні агучваюць падрыхтаваныя паведамленні пра імкненне чалавека паляцець да зорак, дзейнасць Канстанціна Цыялкоўскага і Сяргея Каралёва, засваенне космасу ў Савецкім Саюзе, палёт у космас Юрыя Гагарына. Кароткія выступленні прысвечаны нашым суайчыннікам, якія прымалі актыўны ўдзел у касмічных палётах.

Першы беларус, які паляцеў у космас, — Пётр Клімук. Пётр Клімук — касманаўт, двойчы Герой Савецкага Саюза, нарадзіўся 10 чэрвеня 1942 года ў вёсцы Камароўка Брэсцкай вобласці. Бацька загінуў у час вайны ў партызанскім атрадзе. Пасля заканчэння школы вучыўся ў Чарнігаўскім вышэйшым авіяцыйным вучылішчы, якое скончыў на выдатна. Пасля некалькіх гадоў службы, у 1964 годзе, быў залічаны ў атрад касманаўтаў Савецкага Саюза. У космасе быў тры разы — у 1973, 1975 і ў 1978 гадах. Цяпер на адпачынку, актыўна займаецца грамадскімі справамі.

Уладзімір Васільевіч Кавалёнак здзейсніў тры палёты ў космас. Двойчы Герой Савецкага Саюза. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Белае Мінскай вобласці. У 1959 годзе паступіў у Балашоўскае вышэйшае авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў. У 1967 годзе залічаны ў атрад касманаўтаў. У 1977 годзе адбыўся першы палёт, які працягваўся два дні. Другі палёт здзейсніў у 1978 годзе, ён працягваўся 139 дзён. Па тых часах гэта быў самы працяглы палёт у космас. Трэцяе падарожжа адбылося ў 1981 годзе. На земной арбіце касмічны карабель знаходзіўся 74 дні. Уладзімір Кавалёнак і цяпер працуе, дапамагае ў падрыхтоўцы маладых касманаўтаў да палётаў.

23 кастрычніка 2012 года адбыўся старт касмічнага карабля. Яго камандзір — наш зямляк, ураджэнец горада Чэрвеня Мінскай вобласці Алег Навіцкі. На касмічнай арбіце быў некалькі месяцаў. Калі ёсць магчымасць, стараецца наведаць бацькоў і сваякоў, якія жывуць у Чэрвені. Наведвае родную школу, куды яго запрашаюць на сустрэчы і дзе ёсць экспазіцыя ў школьным музеі, прысвечаная славутаму земляку. Цяпер Алегу Навіцкаму 45 гадоў, ён служыць у касмічных войсках Расіі. У 2017 годзе адбыўся яшчэ адзін яго палёт у космас, які працягваўся некалькі месяцаў.

Валянціна Уладзіміраўна Церашкова — першая ў свеце жанчына-касманаўт. Нарадзілася 6 сакавіка 1937 года ў Яраслаўскай вобласці. Бацькі яе — выхадцы з Беларусі, пераехалі на Яраслаўшчыну ў пошуках заробку, там і засталіся. Былі сялянамі, працавалі ў калгасе. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, бацька пайшоў на фронт, дзе і загінуў. Маці з трыма дзецьмі пасля вайны перабралася ў Яраслаўль, дзе пачала працаваць на ткацкай фабрыцы, куды пазней прыйшла і дачка Валянціна. Дзяўчына захаплялася парашутным спортам, наведвала аэраклуб — і стала касманаўтам. Свой палёт здзейсніла ў 1963 годзе, ён працягваўся амаль 23 гадзіны. За гэты перыяд касмічны карабель абляцеў вакол Зямлі 48 разоў. Цяпер Валянціна Церашкова жыве актыўным жыццём, нягледзячы на сталы ўзрост.

**Удзел вучняў у занятках.** Вучні агучваюць паведамленні, удзельнічаюць у гутарцы. Каб зацікавіць дзяцей зместам твора, настаўнік прапануе разгледзець малюнкі вучняў, якія ў мінулым годзе чыталі апавяданне і намалявалі ілюстрацыі па тэме заняткаў. Напрыканцы ўрока дзеці атрымліваюць карткі, дзе прапануецца адказаць на пытанні «Якія фантастычныя творы вам больш цікавыя: літаратура, кінафільмы, анімацыя, коміксы? Чаму?». Хатняе заданне — прачытаць апавяданне «Гальштучнік», намаляваць ілюстрацыю да апавядання ці па тэме «Сусвет і я».

**Вынікі.** Пасля заняткаў вучні будуць лепш уяўляць загадкавы космас, касмічныя караблі, далёкія нязведаныя планеты. Персанажы апавядання «Гальштучнік» будуць больш зразумелымі і блізкімі.

**Алена ЛІНКЕВІЧ,
настаўніца беларускай мовы і літаратуры Лельчыцкай сярэдняй школы № 2**

# АПОШНЯЯ ГУТАРКА З ПІМЕНАМ ПАНЧАНКАМ

## Да 100-годдзя народнага паэта Беларусі

Упершай палове 1990-х гадоў я меркаваў заняцца вывучэннем складанай праблемы, звязанай з уплывам ідэйна-мастацкіх пошукаў Янкі Купалы на развіццё паэзіі Заходняй Беларусі. У сувязі з гэтым правеў сустрэчы-гутаркі з некаторымі пісьменнікамі, а таксама даследчыкамі жыццёвага шляху і творчага даробку народнага песняра, гісторыі беларускай літаратуры ХХ стагоддзя ды іх анкетаванне. На мае пытанні пра месца і значэнне Я. Купалы ў свеце літаратуры, пра тое, якімі ім бачацца асоба і творчасць народнага паэта Беларусі з вышыні часу і яго адкрыццяў, чаму вучыліся і вучацца беларускія паэты ў Я. Купалы, тады адказалі народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, народныя паэты Беларусі Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіль Зуёнак, доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан, кандыдаты філалагічных навук Анатоль Верабей, Пятро Васючэнка, Ірына Багдановіч, Дзмітрый Санюк і інш. Цікавымі разважаннямі адносна ўплыву мастацкага слова Я. Купалы на сваю творчасць падзяліліся народны паэт Беларусі Максім Танк, былыя заходнебеларускія паэты Сяргей Новік-Пяюн, Анатоль Іверс, Ганна Новік, Ніна Тарас.

Пімен Панчанка належаў да нямногіх у той час беларускіх паэтаў, якія актыўна тварылі яшчэ ў 1930-я гады, даволі часта сустракаліся і гутарылі з класікам беларускай літаратуры, добра адчувалі яго як мастака і асобу. Ён удзельнічаў у вядомым вераснёвым паходзе 1939 года Савецкай Арміі ў Заходнюю Беларусь, пэўны час служыў у Беластоку, напісаў пра заходнебеларускую рэчаіснасць і яе праблемы шэраг цікавых і пазнавальных твораў. П. Панчанка сябраваў з Піліпам Пестраком, Нінай Тарас, асабліва блізка з Максімам Танкам і, як уяўлялася, валодаў многімі цікавымі і характарыстычнымі фактамі з грамадска-сацыяльнага і культурнага жыцця ў «забраным краі». Акрамя ўсяго, гэта была, несумненна, яркая паэтычная асоба — асоба палымянага грамадзяніна і патрыёта роднай зямлі, якая балюча рэагавала на ломку духоўна-сацыяльных каштоўнасцей, якая адбывалася з сярэдзіны 1980-х гадоў у Беларусі, блізка да сэрца ўспрымала беды і няшчасці працоўнага асяроддзя. Хацелася даведацца, што называецца, з першых вуснаў пра адносіны П. Панчанкі да вядучых актуалій грамадскага жыцця, тагачаснага літаратурна-мастацкага працэсу, нараджэння новых мастацкіх талентаў і інш. Якраз усім гэтым была абумоўлена неабходнасць маёй сустрэчы і гутаркі з народным паэтам Беларусі.

Гутарка адбылася ў пачатку чэрвеня 1994 года на кватэры Пімена Емяльянавіча па вуліцы Пуліхава. Памятаецца, паэт адчуваў сябе вельмі кепска — рухаўся з цяжкасцю, самастойна хадзіць фактычна не мог, толькі з дапамогай жонкі Зоі Кірылаўны, якая апякала яго, здаецца, ва ўсім і выконвала любое пажаданне. Тым не менш выглядаў даволі бадзёра, быў у добрым настроі, нават жартаваў. На мае загадзя перададзеныя пытанні адказваў ахвотна, нават з некаторымі адхіленнямі і падрабязнасцямі. Было відаць, матэрыял нашага сумоўя быў яму блізкі і цікавы.

Добра запомнілася тая эмацыянальнасць, з якой Пімен Емяльянавіч гаварыў пра Янку Купалу, вызначаючы яго як класіка беларускай літаратуры. Ён надзвычай высока ацэньваў ролю і значэнне Я. Купалы ў развіцці беларускага слоўнага мастацтва і культуры ў цэлым. «Янка Купала — пачынальнік, асноўны мастак, тэарэтык, заканадаўца ўсёй беларускай літаратуры ХХ стагоддзя, — разважаў паэт. — Ён быў вялікім пісьменнікам, палымяным грамадзянінам. Яго даўнія выступленні па нацыянальным пытанні, адносна лёсу роднай мовы і літаратуры і сёння з'яўляюцца актуальнымі. Янка Купала пра многае пісаў праўдзіва і яскрава. Цяжкая доля народа, яго безупынная праца, светлыя надзеі — усё легла ў бессмяротныя радкі купалаўскай паэзіі. Творчасць Я. Купалы ўвабрала ў сябе ўсё лепшае, мудрае з беларускай народнай паэзіі. Паэзія Купалы — гэта душа беларускага народа. У вершах-песнях «Ой, вясна, ой, вясна!», «Песня аб песнях», «Песня-байка», «Песняй вясны лебядзіную» і іншых адбіўся сапраўдны народны дух Купалы. Калі ў першых вершах (з «Жалейкі») «Мужык», «Плачуць мае песні», «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні» і іншых паказана цяжкое, паднявольнае жыццё народа, яго імкненне паўстаць, «людзьмі звацца», дык пазнейшыя творы больш роздумнага, філасофскага зместу. Напрыклад, верш «Прарок», у якім Купала смела, магутна, не адыходзячы ад праўды, напісаў вобраз прарока. Сатырычныя, гумарыстычныя, іранічныя радкі складаюць многія вершы і паэмы Купалы. Верш «Дэпутаты і грамадзяне», напісаны ў 1915 годзе, гучыць і сёння злабадзённа. Але асноўнае сваё імкненне Купала выказаў у вершы «З кутка жаданняў»:



Пімен Панчанка сярод пісьменнікаў.

*З цэлым народам гутарку весці,*
*Сэрца мільёнаў падслухаць біцця —*
*Гэткай шукаю цэлы век чэсці,*
*Гэта адно мне падпорай жыцця.*

Прыгадваючы свае сустрэчы з Я. Купалам, П. Панчанка адзначаў: «Янка Купала ў жыцці быў прываблівы чалавек — сумленны, праўдзівы, заўсёды адгукаўся на чужую бяду, крыўду. Жыў ён на вуліцы Садовай, дзе цяпер знаходзіцца музей народнага паэта. Мы, маладыя настаўнікі і студэнты, часта праходзілі міма яго хаты, каб незнарок сустрэць Івана Дамінікавіча ці яго жонку Уладзіславу Францаўну. Гэта нам часта ўдавалася. Было прыемна глядзець на Янку Купалу, як ён ішоў ад свайго дома па вуліцы, цяпер праспекце Скарыны, да дома пісьменнікаў. Ён заўсёды быў апрануты вельмі ахайна, нібы святочна. Мы заходзілі наперад, каб паздароўкацца з любімым паэтам».

Пімен Емяльянавіч зрабіў рэмарку адносна таго, як Я. Купала выступаў на публіцы, як ён чытаў свае вершы. «Пазней я многа разоў слухаў выступленні Янкі Купалы, чытанне вершаў, — прызнаваўся паэт. — Трэба сказаць, Купала кепска чытаў свае вершы: без падкрэслівання асобных слоў і выразаў, роўным голасам. Але асноўны іх сэнс даходзіў да кожнага сэрца, кранаў».

П. Панчанка асобна спыніўся на перадваенным перыядзе, адзначыўшы актыўную творчую і грамадскую дзейнасць як Я. Купалы, так і Я. Коласа. Восенню 1939 года Янка Купала і Якуб Колас многа выступалі ў друку. Купала стварае ў гэты час цыкл вершаў «На заходнебеларускія матывы», у кастрычніку разам з Якубам Коласам піша зварот да пісьменнікаў Заходняй Беларусі, бярэ ўдзел у рабоце Народнага сходу Заходняй Беларусі, удзельнічае ў літаратурных вечарах у Беластоку.

«У верасні 1941 года ў газеце «Красная звезда» быў надрукаваны верш Купалы «Беларускім партызанам», — успамінаў П. Панчанка сваё ваеннае мінулае. — Аднойчы мяне з Танкам тэрмінова выклікаў наш рэдактар франтавой газеты Міхась Лынькоў і папрасіў перакласці яго на беларускую мову. Мы вельмі ўзрадаваліся, а потым шмат давялося папацець, каб атрымаўся прыстойны пераклад вялікага Купалы.

У 1942 годзе я быў супрацоўнікам франтавой газеты «За свабодную Беларусь», і тут усіх нас напаткала нечуванае гора — не стала Янкі Купалы. З нашых хлопцаў у Маскве ў гэты час быў Пятро Глебка. Ён расказваў пра апошнія сустрэчы з народным паэтам. Дарэчы, Купала тады не піў нічога моцнага, што адзначалі і іншыя пісьменнікі (Лынькоў, Крапіва, Броўка). Пятро Глебка сцвярджаў: адбылося цяжкое злачынства, нейкі вораг саштурхнуў Купалу ў пралёт з дзявятага паверха. Так загінуў наш любімы пясняр.

У газетах было надрукавана развітанне з Купалам. Першым стаяла прозвішча Панамарэнкі і апошнім маё, Панчанкі.

У маскоўскім крэматорыі урна з прахам Янкі Купалы знаходзілася побач з урнай славутага генерала Даватара. Праводзіць Купалу ў апошні шлях прыйшло шмат пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў. Гэта было цяжкое, нязносна горкае развітанне».

Даволі цікавыя факты акцэнтаваў Пімен Емяльянавіч, прыгадваючы працэдуру перазахавання праху народнага паэта Беларусі ў Мінску. Ён адзначаў: «А перавезці урну з прахам Янкі Купалы ў Мінск нам давялося толькі ў 1952 годзе. Па яе ў Маскву паехала спецыяльная дэлегацыя пісьменнікаў: Крапіва, Лынькоў, Броўка, Танк, Куляшоў і я. У Мінску урну ў нас забралі, і ніхто не ведаў, дзе яна знаходзіцца. А раніцой пачалося апошняе пахаванне. Калі мы вярталіся з могілак, нам насустрач ішло шмат людзей і многія з іх пыталіся: "Дзе пахавалі Янку Купалу?" І мы, хаваючы вочы, адказвалі, што на Вайсковых могілках. Людзей ніхто не папярэдзіў аб дакладным месцы і часе пахавання Купалы».

Шчыра прызнаюся, адказ П. Панчанкі на пытанне «Якой вам бачылася Заходняя Беларусь і яе літаратура тады, у перадваенны час?» прыкметна расчараваў мяне. Паэт заўважыў літаральна наступнае: «Пра літаратуру Заходняй Беларусі да верасня 1939 года мы мала што ведалі. З Танкам, Таўлаем, Пестраком, Машарам, Засімам, іншымі паэтамі мы пазнаёміліся, а некаторых належна аценілі і палюбілі ўжо пасля вызвалення 1939 года». Фактычна ён пацвердзіў, што паміж пісьменнікамі Усходняй і Заходняй Беларусі ў 30-я гады сувязей амаль не існавала, гэта былі іманентныя літаратурна-мастацкія працэсы. І далей Пімен Емяльянавіч прыгадваў: «У канцы 1939 года я разам з Максімам Танкам ездзіў выступаць у розных установах, з захапленнем слухаў яго яркія вершы. Ён адразу стаў маім любімым паэтам (разам з Купалам, Коласам, Куляшовым). Дарэчы, тады пачалася мая асабістая дружба з Максімам. У перадваенныя гады я служыў у Беластоку, дзе жыў з жонкай Танк. Мы часта сустракаліся. А ў пачатку вайны мы разам служылі на Бранскім фронце, пападалі пад бамбёжкі, пісалі вершы. Па некалькі вершаў прысвяцілі адзін аднаму. Служылі разам з Лыньковым, Крапівой, Броўкам, Глебкам, Гурскім».

Па маёй просьбе П. Панчанка выказаў сваё адносіны да тых змен, якія адбываліся ў беларускім грамадстве ў першай палове 90-х гадоў. Ён заўважыў, што пераўтварэнні прыйшлі да нашага народа нечакана, раптоўна: што ўчора лаялі і бэсцілі, сёння пачалі хваліць. Капіталізм заняў месца сацыялізму. Але людзям трэба перабудаваць сваю свядомасць на новы лад, а гэта няпроста. Фермерства правалілася — няма сродкаў, сельгасмашыны страшэнна высокай цаны, ды і мясцовыя ўлады не падтрымліваюць. Прыватызацыя? Некаторую колькасць кватэр прыватызавалі, а далей? Прадпрыемствы, асабліва буйныя і сярэднія, прыватызуюцца з вялікімі цяжкасцямі. А тут яшчэ «прыхватызацыя»… Паглядзіце, што пабудавана вакол Мінска, абласных цэнтраў, проста гарадоў і гарадкоў. Дзясяткі і сотні аднапавярховых, двух- і трохпавярховых катэджаў. На якія сродкі? Не на свае. Кожны генерал і палкоўнік, адслужыўшы ў Беларусі, застаецца жыць тут назаўсёды, не вяртаецца ў Маскву, Разань ці Калугу…

Трэба сказаць пра нізкі маральны ўзровень нашага грамадства. Тут, здаецца, поўны распад: на кожным кроку крадзяжы, грабяжы, разбой… А зараз на нашу бяду — нечувана высокія цэны на прадукты харчавання, неабходныя рэчы, праезд па чыгунцы, на аўтобусе. А беспрацоўе…

Пра якія правы чалавека можна гаварыць? Колькі б благіх слоў не казалі новыя перабудоўшчыкі, яшчэ нядаўна мы мелі права на бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, навучанне, танныя кватэры, і для ўсіх была праца. А цяпер? Бяздумна ліквідавалі клас сялянства — самы працавіты, кармілец народа і дбайны ахоўнік зямлі. Наўкола пакінутыя вёскі, рэдкія статкі кароў, запусцелая зямля… Няма каму турбавацца аб людзях вёскі, аб зямлі. Непамерна растуць гарады — чэргі на жыллё на сто гадоў. Моладзь адвучылі працаваць, паважаць людзей працы. Усе падаліся ў спекуляцыю.

Напрыканцы нашай гутаркі я пацікавіўся ў народнага паэта Беларусі: «Што вас асабліва хвалюе ў літаратурным жыцці рэспублікі?» Адказваючы на яго, Пімен Емяльянавіч катэгарычна адназначыў наступнае: «Адносіны да літаратуры і культуры наогул у нашага ўрада, нашай дзяржавы раўнадушныя і абыякавыя. І выдавецтвы, і часопісы, і тэатры, і кіно сёння ў нечуваным застоі. Добрых твораў няма. Раней з'яўляліся рэдкія таленты: Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Міхась Стральцоў, Аляксей Дудараў… Цяпер штосьці талентаў не бачна…»

Гутарка пакінула сумнае ўражанне. Развагі народнага паэта Беларусі, як і ягоная творчасць на заключным этапе, дыхалі прадчуваннем «апошняй вярсты». Гэта была апошняя гутарка Пімена Емяльянавіча («пад запіс»), жыць яму заставалася менш за год. Канечне, мінору дадавала і цяжкая грамадска-сацыяльная атмасфера ў рэспубліцы. Паэт бачыў: як ні дзіўна, доўгачаканая свабода несла безадказнасць, усёдазволенасць і жорсткасць, а гэта ніяк не стасавалася з яго гуманістычнай душой і чулым сэрцам...

**Мікола МІКУЛІЧ**

# ДЗЕ НАЧУЕ ЖАЎРАНАК

**Складаючы для «Мастацкай літаратуры» першыя кнігі новай серыі «100 вершаў», перачытаў цалкам Пімена Панчанку. І нядаўна да 100-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі выйшла кніга яго паэзіі «Сэрца маё». Яе аздобілі рэпрадукцыі карцін выдатнага пейзажыста Гаўрыіла Вашчанкі.**

Перачытваючы Панчанку, я ўзгадваў той час, калі многія вершы паэта, што ў кніжках, чытаў у часопісных і газетных публікацыях. І кожная публікацыя была падзеяй. «Ці чытаў новыя вершы Панчанкі?» — мы, маладыя паэты, пыталіся адно ў аднаго. І так было не толькі з творамі Панчанкі. Словам, быў час, быў век, была эпоха, была Паэзія. Паэзія і цяпер ёсць, але… Я час ад часу разгортваю кніжкі вершаў, якія выходзілі 30 — 40 гадоў таму, чытаю і думаю, што някепскія ў майго пакалення былі настаўнікі. Максім Танк, Ніл Гілевіч, Міхась Стральцоў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Яўгенія Янішчыц, Алесь Разанаў… І сярод іх быў Пімен Панчанка. І, калі паэт памёр, я напісаў баладу, прысвечаную яму.

## БАЛАДА ПІМЕНА ПАНЧАНКІ

(23.08.1917 — 02.04.1995)

*Ці плачу я, ці пяю,*
*Ці размаўляю з матуляю—*
*Песню сваю, мову сваю*
*Я да грудзей прытульваю.*

П. Панчанка

*Паэты проста так не паміраюць,*
*Іх белыя анёлы забіраюць*
*У лепшы свет ад хамскае хлусні,*
*У вечны свет ад пыльнай мітусні,*
*Дзе мы жывём у полымі жыцця,*
*Самотныя, як дрэвы без лісця…*

*Паэты адыходзяць, нібы дні,*
*Дзе адвугелі вольнасці агні,*
*Дзе мы адчулі: тут наш родны кут*
*І за яго нам будзе Божы Суд,*
*Калі не зберажом яго святло,*
*Што праз стагоддзі і да нас дайшло…*

*Ты плакаў, размаўляў з матуляю,*
*Казаў: «Я да грудзей прытульваю*
*І песню родную, і мову маці,*
*Каб іх ніколі наш народ не страціў…»*
*І ведаў ты, што жаўранак начуе*
*У сэрцы, што другія сэрцы чуе,*
*Якім трывожна не за ўсё на свеце,*
*А за бярозу, што ламае вецер,*
*За рэчку за сялом, што абмялела,*
*За сцежку, што за лета затравела…*

*Паэты, як Хрыстос, не паміраюць.*
*Яны жывуць і смерць перамагаюць…*

Гартаючы свае дзённікавыя запісы, я знайшоў сёе-тое, звязанае з Піменам Панчанкам:

21.05.1981. Званіў у «Працоўную славу». Прапанаваў даць назву літаб'яднанню: «Рунь». Эпіграф з Пімена Панчанкі: «Песню сваю, мову сваю Я да грудзей прытульваю...». Галіна Шаблінская сказала, што гаварыла з мастакамі наконт пасведчання члена літаб'яднання.

18.02.2011. Быў у СШ № 199, што на вуліцы Пімена Панчанкі. Выступаў перад старшакласнікамі. Слухалі, задавалі пытанні, чыталі вершы з маёй першай кніжкі «Гронка святла». У школе ёсць музей, прысвечаны жыццю і творчасці Пімена Панчанкі, у якім каля тысячы экспанатаў. Музей хоць і школьны, але зроблены на ўзроўні дзяржаўных Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Словам, жыве Пімен Панчанка…

18.02.2011. Будучы ў музеі Пімена Панчанкі, што ў СШ № 199, узгадаў вясну 1979 года. Мне тады было 19 гадоў. У часопісе «Маладосць» Мікола Аўрамчык выбраў для друку чатыры мае вершы. І вось я прыйшоў у рэдакцыю, каб сфатаграфавацца. У кабінеце Міколы Якаўлевіча быў Пімен Панчанка. І пакуль фатограф Валянцін Ждановіч рыхтаваў свой фотаапарат, Мікола Аўрамчык і Пімен Панчанка рабілі мне прычоску да фотасесіі. Валасы ў мяне былі доўгія і непаслухмяныя. Мікола Якаўлевіч, прычэсваючы мяне, узгадаў, што, калі ён быў малады, то з сябрамі, калі ішлі фатаграфавацца, намазвалі валасы алеем, каб яны добра ляжалі. Алею ў кабінеце Аўрамчыка не было, дык мне галаву намачыў Панчанка вадой з графіна. Потым мяне з прычоскай, зробленай Аўрамчыкам і Панчанкам, сфатаграфаваў Ждановіч, і ў 9-м нумары «Маладосці» з'явіліся мае вершы з фотаздымкам…

18.02.2011. Пасля таго як Уладзімір Сцяпан, прачытаўшы маю зацемку «Прычоска ад Аўрамчыка і Панчанкі…», задаў пытанне «А фота дзе?», я амаль тры гадзіны пароўся ў папках, шукаючы патрэбнае фота. Памятаю, што тое фота я спецыяльна схаваў, каб не прапала. Схаваў так, што цяпер не магу знайсці. Праўда, у папках пазнаходзіў шмат чаго цікавага: і арыгіналы вершаў некаторых паэтаў, і рэдкія здымкі, і малюнкі, і апавяданне Алеся Асташонка, якое ён даваў у «ЛіМ» у сярэдзіне 90-х гадоў і яго там не надрукавалі, і рукапіс выступлення Ніла Гілевіча на пахаванні Максіма Танка, і …

29.06.2014. Напісаўшы верш «Тут, відаць, па-над намі дзіравае неба…» і змясціўшы яго ў фэйсбуку, я атрымаў ад Ніны А. паведамленне: «Пан Шніп — сталы, выдатны паэт. Ён проста павінен быў, як патрабуе этыка, паставіць 1 над «дзіравае неба» ў сваім вершы і даць унізе спасылку — мой невялічкі, але глыбока філасафічны верш.» Словам, я ўкраў у Ніны А. выраз «дзіравае неба». Але ж яшчэ ў 1945 годзе класік беларускай літаратуры Пімен Панчанка пісаў у «Іранскім дзённіку»: «Ад ярасці гром разрываўся, Нібыта на нейкай вайне быў. Цярпеў я, цярпеў — разлаваўся: "Заткніце дзіравае неба!"». Выразам «дзіравае неба»



Алесь Адамовіч, Пімен Панчанка і Ніл Гілевіч падчас сустрэчы.

карысталіся мае бацькі і мае дзядулі і бабулі. Для мяне выраз «дзіравае неба» такі ж хадавы, як «хмарнае неба», «зорнае неба».

1.05.2017. Сярод старых папер на працы знайшоў канверт са складной паштоўкай ад Пімена Панчанкі Валянціне Аркадзьеўне Куляшовай. На паштоўцы чырвоныя зорка, серп і молат, а таксама надпіс: «Слава Вялікаму Кастрычніку».

Пімен Панчанка напісаў: «31.Х.89 г. Дарагая Валянціна Аркадзьеўна! Яшчэ раз дзякую, шчыра дзякую за кнігу "Лясному рэху праўду раскажу". Прачытаў за некалькі прыёмаў — і стала лягчэй: ці я папраўляцца пачаў, ці Ваша кніга вельмі добрая. Здаецца — фрагменты, фрэскі, а атрымліваецца выразная і яркая аповесць пра Аркадзя Куляшова.

Я некалі крыху бурчэў на летапіс яго паходжання: дзяды і прадзеды, шляхцічы, украінцы і італьянцы. А цяпер прачытаў з задавальненнем. Хай будзе трохі налёт легенды.

Гэта добра, што няма акадэмічнай храналогіі. Ёсць адступленні, успаміны ці сны, а потым глыбокае разуменне і адчуванне, чаму з'явіўся той ці іншы верш, паэма пра Хамуцыуса ці паэма пра Твардоўскага. Я лічу паэму "Варшаўскі шлях"— лепшай пасля "Сцягу брыгады". Яе чытаў мне сам Аркадзь: пазваніў у гадзін 11 і прыйшоў з Кучарам. Я быў у захапленні. Пасля мяне выклікаў Пётр Міронавіч і пытаўся, ці чытаў я паэму. Я абрушыў на Аркадзя паток хвалы. Ён (Машэраў) мяне папрасіў: памеркаваць з Куляшовым, як змяніць ці выкінуць двухсэнсоўныя мясціны. Потым мы з Аркадзем многа на гэтую тэму гаварылі і шкадавалі, што нешта трэба было трохі змяніць. Але пра тое, што забівае паэта — раней было мацней і актуальней. У маладосці (ды і ў сталыя гады) я добра плаваў і даваў нырца. Хвалюся таму, што зноў адчуваю сябе плыўцом. Чытаю Вашу кнігу — і нібы глыбока ныраю, а потым зноў люстра ракі, сонца, зялёныя берагі — і Аркадзь Куляшоў. Вы паказалі яго Род, Прыроду, сваяцтва, сяброўства, творчае гарэнне, мудрасць, страсці і слабасці. Усяго-усяго паэта, што дорага Вам і мне. Новым для мяне было — раздзелы пра Хрыста і Караткевіча.

Віншую Вас і Вашых блізкіх са святам Кастрычніка і Вашай кнігі. Абдымаю. Ваш Пімен Панчанка. Прывітанне і віншаванне ад Зоі.»

## ЖАЎРАНАК ПІМЕНА ПАНЧАНКІ

(23.08.1917 — 2.04.1995)

*і ўзляцеў жаўранак*
*над краем паэтаў*
*і ты разбуджаны крыкам сойкі*
*пры святле маланак*
*выйшаў з дому*
*каля якога сінія касачы*
*і падняў на памяць горкі жолуд*
*з зямлі якая ў цябе адна*
*і ты выйшаў каб напісаць*
*паэму сораму і гневу*
*і кнігу вандровак і любові*
*і перад табою былі*
*тысяча небасхілаў*
*і высокі бераг*
*з якога ты ўбачыў*
*як лясныя воблакі*
*плывуць*
*да далёкай станцыі*
*дзе спыніўся*
*вячэрні цягнік*
*які чакае цябе*
*і твайго жаўранка*
*пакуль ты будзеш ісці*
*праз свой дзень*
*які не скончыцца нават тады*
*калі скончыцца век*
*і ты будзеш ісці*
*праз гарачыя вятры*
*праз снежань*
*праз неспакой*
*з маўклівай малітвай*
*і будзе з табою*
*і вера, і вернасць, і вечнасць*
*і жытнёвы звон*
*у тваёй душы як у Храме*
*будзе паўтараць адказ*
*на пытанне*
*дзе начуе жаўранак*
*і ты сядзеш у вячэрні цягнік*
*і паедзеш па Млечным Шляху*
*і будзе з табою жаўранак*
*як і Радзіма*
*у якой ты ёсць і будзеш*
*якая цяпер і заўсёды*
*будзе краем паэтаў*
*дзе жывуць жаўранкі*
*якія ведаюць*
*дзе ім начаваць*





Фота Кастуся Дробава.

Асабістыя рэчы пісьменніка, прадстаўленыя ў літаратурным музеі Пімена Панчанкі ў сярэдняй школе № 199 г. Мінска.

**Віктар ШНІП**



Гляб ГАНЧАРОЎ

## Маналог Скарыны

Каб толькі дзён апошніх не ўрачы,
Я, далібог, ніколі б не падумаў,
Што лёс мяне закіне ў Чэскі-Крумлаў,
Як чэзлую цяцеру крумкачы.
І што з тае нагоды мне цяпер,
Калі паўвека кайстрай за плячыма
Гняце нарэшце ў дол кроватачыва?
Цалып кашчавай кісцю за каўнер!
Усмешкаю завілістых дарог
Усё жыццё вяла мяне трывога.
І Месяц, роўна, як усмешка Бога,
Прыўзняў краёчкаў з'едлівых ражок.
Чаго я здолеў выхадзіць сабе,
Калі быў выгнаны з усіх прытулкаў?
Калі штодня сцірала ногі мулка
Вандроўніцтва ў нягодзе і журбе?
Навошта я пайшоў ад Палаты,
Няўдалы Гутэнберга паслядоўнік?
Я доктар філасофіі… Садоўнік…
Ці гэтага чакаў, Францішак, ты?
Ці гэтага чакаў, калі вясной
Звалакваў з прышласці таемны вэлюм?
Калі шашковы пэндзаль Рафаэля
Твой твар на фрэсцы захаваў сцянной?
Чым я міжволі Бога абурыў,
Што ён, не ўнікшы ў сэнс маіх малітваў,
Параскідаў набор ліцвінскіх літар
Па ўсіх гасцінцах, дзе я толькі брыў?
Я злаяны быў на шляху цяжкім
Схізматыкам маскоўскім у насмешцы,
Масквою я прызначаны ў паспешцы,
Літва мяне не ўважала нікім…
Я страціў свой глыбокі ўтульны вір,
Сваё гняздо ды вулей мнагамёдны,
І толькі Чэскі-Крумлаў богаўгодна —
Цяпер мне яма, а падсцілка — жвір!
Кароль табе назычый супакой,
Францыск Скарына, доктар медыцыны,
А ты яму жамерыны-рыцыны
За тое ці не кволаю рукой.
Садоўніцтва! Якая каламуць!
Няўжо мой плён у забыцці загіне?
На ляхах кінаварныя вяргіні,
Што буквіцы, на аркушах, цвітуць.
Які цудоўны водар ад вяргінь!
Так на варштаце фарбай пах
«Апостал».
Ах, мне б нарэшце наглытацца ўдосталь
Вадою з рук ліцвінскіх берагінь
І свежасцю ад полацкіх вятроў,
Дзе збожжа зорак зяе ў боскім зрэб'і,
Што літары, пасеяныя ў небе,
Што ўсходы беларускіх буквароў.

## ПУЧЫНІ

Калі б гэты верш быў напісаны мною «по-русски»,
То ў ім ужывалася б недасягальная рыфма.
У ёй адчуваецца пошчак ядлоўцавы хрусткі
І матэматычная выверанасць лагарыфма.

Паслухайце толькі, якая тут гнуткасць спружыны!
Прыкмецяць яе чужамоўныя і суайчыннік.
Якая густая, смалістая даўкасць ажыны!
На смак паспрабуйце праверыць: «Пучыні» — «в пучине».

Але беларуская мова не гэтага крою,
Бо слова «пучина» па-нашаму значыць «бяздонне».
Яна патрабуе ад вершаў другога настрою —
Так іканапісец змяняе аблічча мадонне.

Ад вершаў чакае яна асаблівага ладу,
Тут балем кіруюць мелізмы мясцовых сугуччаў,
Для іх аб'яднання патрэбна свая акалада,
Якой іншаземны назойлівы тон надакучыў.

Аднак жа ў тэатры часцей забываецца змора
І смага да музыкі роднага слова, нібыта
Пад велічны купал шчыгламі ўзлятаюць сямёра
Брыльянтавых гукаў. Хто выпусціў іх? Кампазітар!

Душу трапяткое крыло прапякае дашчэнту
Бліскучымі кроплямі па-над буянствам фантана,
Як быццам ірвецца на волю з-за сплеценых прэнтаў
Турэмных лінеек бясконцага нотнага стана.

Няўжо для кагосьці разумнага мае значэнне
Паходжанне генія, прозвішча альбо мянушка,
Калі з цішыні выцякае струменяў злучэнне?
… Рахманінаў, Мусаргскі, Леанкавала, Манюшка…

Ды нават сярод гэтага легіёна гігантаў
Ёсць музыка тая, што з высакагорнай вяршыні
Нясецца лавінай раз'юшаных дзікіх дрыкгантаў,
Зміятаючы ўсё на шляху! Яе імя — Пучыні.

Адкуль жа паўстала вядзьмарская боганатхнёнасць,
Што самаму ціхаму гуку прынесла харызму
І карай нябеснай з'явіла праклённую плённасць,
Надзеўшы на сэрца тугія вярыгі верызму?

Чым вабяць разгубленыя слых, як каштоўныя гемы,
Таемныя ноты, што напамінаюць двукоссі:
Кітайскія спевы, любоўныя страсці багемы,
Пакуты Лаўрэты ды арыя Каварадосі?

Каб быць хоць на ёту падобным ягонаму стылю,
Патрэбна спаліць на агні хваляванні і страхі.
Хто ў гэтым паплечнік, які не прымае бяссілля?
Тваё пяцістоп'е, шаноўны спадар амфібрахій!

Пад ніцай вярбою, лістоту абмыўшы, як хусткі,
Вялікая музыка каціць бурлівай ракою.
Калі б гэты верш быў напісаны мною «по-русски»,
То я спалучыў бы ягоную Тоску з «тоскою».

Але беларуская мова не гэтага ладу:
Яна з малалецтва ўвабрала да самага сэрца
Трывожны раскацісты бас баявога набату,
Далёкі малінавы водгук мінорнага скерца.

Яна нарадзілася ад безупыннага руху
Паўночных вятроў, што шумяць у шырокай лагчыне.
Няўжо вы не чуеце, колькі радзімага духу
У такой надзвычайнай, прываблівай з'яве — Пучыні?

## ГАМЛЕТ

Упаў на залу непраглядны змрок.
Так на планету падае зацьменне.
Авацыя, узняўшы слых і зрок,
Скацілася, што горнае каменне,
Ды сціхнула, нібы ўюрок у жмені.

Рассунуліся полагі заслон,
Як перад Маісеем хвалі мора
Чырвонага, і шлях цераз пілон
Вёў погляды да сцісла прастору
У парадныя пакоі Эльсінора.

На троне Клаўдзій дыхаў часнаком,
Хаваў шыпечы у карунку фрэза,
Якая да гартані цішаком
Паўзла знутры са смакам маянэзу,
І стрымліваў прыпадак энурэза.

Гертруда за кулісамі ўдваіх
Са скнарным Прывідам дзятву дзяліла,
Маёмасць і кватэру. Сварка іх
Усіх рабочых сцэны весяліла,
Што піва распівалі проста з рыла.

Патоплая Афелія ў стаўку,
Пад пакрывам гарлачыкаў і цвілі,
Званіла з тэлефона сябрку
Ды скардзілася, што яе схілілі
Іграць у гэтым пошлым вадэвілі.

Палоній і Лаэрт да хрыпаты
І лаянкі сусветнага маштабу
Адзін другому, роўна як каты,
Гразіліся звіхнуць мардасы набак
За тое, што не падзялілі «бабу».

Са смехам Гільдэнстэрні Разэнкранц
Злавілі на мізэры Фартынбраса,
Усунуўшы чатыры біткі ўраз,
Блазнуючы, што для яго — без шансу,
Таму што ён не майстра прэферанса.

Шыпеў на ўсіх галоўны рэжысёр,
Каб у спектаклі час не марнавалі:
І так даўжэйшы ён за «Трох сясцёр»,
А праз гадзіну на другім канале —
Фінляндыя з Канадай у фінале.

Маркотна пазяхалі гледачы
Да звіху натрэніраваных сківаў,
Сачыўшы, як магільшчык уначы
П'е спірт з чаропкі ды грымасы крывіць,
І ўсхвалявана думалі: «Шчаслівец!»

Марнелі ўсе, і праз такую сыць
Пакутаваў у смутнай кругаверці
Самотны хлопчык: «Быць альбо не быць», —
І выў у прадчуванні хуткай смерці.

## На бацькоўскай зямлі

Згараю ў полымі верша,
Ратуе стваральны агонь.
Пераплаўляюся, грэшная,
І ўваскрасаю наноў.

Веру ў словы-агеньчыкі,
У радкі-вугалькі.
Хай дужэюць карэньчыкі
На вякі. На вякі…

Я дыханнем славянскім
Вугалькі распалю.
Родны край мой случанскі
Да сябе прыгарну.

Ночы тут салаўіныя,
Сенакосныя дні.
Выспяваю пад ліўнямі
На бацькоўскай зямлі.

## Санет

Паэзіі узвышаныя словы,
Як зёлкі ад пакутлівых хвароб,
Здаецца, да ўсяго ў жыцці гатова,
Вось толькі горшай долі не было б.

А што нядоля, тое шчэ не гора.
Жанчыну так прырода наракла:
Цярпеннем і адвечнаю пакорай,
Я гэтага аспрэчваць не магла.

Перагараю, ўсё перацярплю,
Не папрашу у Бога анічога,
Аб міласці адной Яго малю:
Благаславі на Зорную дарогу.



Тасія ТРАФІМАВА (ЯНУЧОК)

Паэзіі узвышаныя словы,
Па сутнасці, — жыцця майго аснова!

## Настальгічныя ўспаміны

Светлай памяці бацькі

Татачка, шаноўны мой мастак,
Намалюй манькоўскую мне хатку.
Слаба помню, выглядала як…
Колькі мне тады было, дзіцятку.

Два гадкі з паловай усяго,
Як мы пераехалі ў Падліпцы.
Пакланіцца так хачу даўно
Той, ад столі звешанай калысцы.

Праз жыццё іду як праз сяло,
Тым дарогам — ні канца, ні краю.
Што мяне ў Манькова прывяло,
Хто мяне тут кліча і чакае?

Мой найсаладзейшы успамін…
Гэта ён мяне дамоў вяртае,
Белая бярозка, бэз, язмін,
Маладой бабуля сустракае.

…Бог жыллём мяне не абдзяляў, —
Мінская кватэра — як святліца.
Маю шмат зямных і творчых спраў,
Жывучы у любай мне сталіцы.

Але ўсё ж душы утульней тут.
І сюды на крылах прылятаю,
Случчына, мой мілы сэрцу кут,
Пры лясным манькоўскім родным краі.

Гушкае ўспаміны млын-вятрак…
І пачнецца зноў жыццё спачатку.
Татачка, шаноўны мой мастак,
Намалюй буслянку, жыта, хатку…

Не паспеў!.. І белыя лісты, —
Ветразі апошняе вандроўкі,
Развялі жыццёвыя масты.
Не паспеў!.. Рассыпаны алоўкі…

Твой паром… А душам — не ўміраць!
Вечнаю любоўю акрыяю.
А буслы над Случчынай ляцяць,
Над маім бацькоўскім родным краем…

## Шчаслівая

На крылах шчасця і любові
Лячу у родны край Манькова,
Адкуль вядуць мяне вытокі
У край далёкі, свет шырокі…

На крылах шчасця і любові
Лячу да зор, за небакрай,
Пад спеў і звонкі, і вясёлы,
У наш зямны высокі рай:
Мой край!

Шчаслівая, што крылы маю,
Шчаслівая, што узлятаю!

## Эксклюзіўнае інтэрв'ю

*Няма нічога за душой,*
*апроч палёту…*
**Мар'ян Дукса**

— Ці лёгка жыць на крылах, адкажы,
Летуценніца?

Чым напоўніўся год мінулы,
Чым запомніўся?

Ці ўсё здзейснілася,
Як марылася?
А як мроілася?

Ці ўсё адбылося тое,
Чаго патрабавала
Душа?

Куды на гэты раз паляціш,
Акрыленая?

Я тайна палячу
Следам… Лёгкіх крылаў Табе
Пры любым надвор'і.

Захапі капялюшык.

— Дзякуй, Анёл-ахоўнік.
Я шчыра адкажу на ўсе пытанні.
Сустрэнемся...



Адам ГЛОБУС

# ЖЭНЯ

## Словы пра паэтку Яўгенію Янішчыц

## ЛЮБОЎ

У кнізе лірыкі Яўгеніі Янішчыц «Пара любові і жалю» шмат вершаў пра каханне, але мала які з іх мяне кранае. Такое адчуванне, што паэтка апісвала пачуцці, якія даўно згаслі і засталіся ў далёкім мінулым. Найлепшае ў яе інтымных вершах якраз не пачуццёвае, а разумовае. Чытаем:

*Плачу за ласку і за гнеў — плачу,*
*Пакуль цябе нарэшце зразумею.*
*Я вінавата часта, што маўчу,*
*І вінавата, што хаваць не ўмею*
*Сваю любоў.*

Разумна. Любоў і сапраўды варта хаваць, калі не хаваць, дык прыхоўваць, каб не скралі, не стапталі і не запаскудзілі зайздрасцю.

## ПЛАКАТ

У старым саюзе пісьменнікаў быў аддзел прапаганды, які займаўся выступленнямі і рэкламай літаратараў. Той аддзел і замовіў мне плакат для паэткі Яўгеніі Янішчыц. Зазвычай мастакі рабілі вялікія плакаты — 90 на 60 сантыметраў. На тых плакатах усміхаліся твары, перамалёваныя каляровымі алоўкамі з афіцыёзных фотакартак. Пад тварамі груваскімі літарамі пісаліся імёны і прозвішчы ўладароў афіцыйных усмешак. Ад плакатаў патыхала водарамі зашмулянага рубля і дзяржаўнай халтуры. У такой жа стылістыцы рабілася і тагачасная наглядная агітацыя з лозунгамі «Камунізм пераможа ва ўсім свеце!», «БАМ — будоўля стагоддзя!», «Партыя — розум, гонар і сумленне нашай эпохі!». Рабіць падобную халтуру не хацелася. Таму я дамовіўся пра больш сціплы фармат — 30 на 45 — і чорна-белы друк. На плакаце мусіла быць невялікая графічная фігурка паэткі ў сціплай чорнай сукенцы на фоне белай атынкаванай сцяны, на сцяне мусіў быць напісаны лёгкай нязмушанай рукою аўтограф — Яўгенія Янішчыц. Здымак рабіла мая жонка, на той момант цяжарная Ядзяй. У момант пазіравання ў Жэні доўгі час не атрымлівалася засяродзіцца. Яна шмат усміхалася і разняволена смяялася. І мы смяяліся, бо калі Жэня на грудзях складвала накрыж рукі, з-пад караткаватай сукенкі выязджалі карункі камбінашкі. Даводзілася абцягваць сукенку і пераздымаць усё наноў. У той вераснёвы цёплы і сонечны дзень мы шмат насмяяліся, нафатаграфаваліся і выпілі бутэльку шампанскага. Толькі наша весялосць зусім не адбілася на плакаце. Ён атрымаўся строгім і ўрачыстым, але галоўнае — празрыстым і лірычным.

## КАХАННЕ

Паўтараеш за Жэняй яе радкі:

*Спахмурнелы дзень і смутны вечар —*
*Нібы і ў каханых не была...*

Нібыта трэба запярэчыць... Нібыта і варта сказаць: «Была! Была...» Ды не кажацца такое, не вымаўляецца, не выгаворваецца. Можа, і праўда, што «ў каханых не была».

## ПОДПІСЫ

Збіраць подпісы пад зваротам — справа цяжкая і малапрыемная. Кожнага разу, просячы подпіс, можаш пачуць адмову і крытыку. Каму прыемна выслухоўваць тырады пра ўласнае глупства? Таму звяртаюся да людзей з просьбаю падпісаць ліст толькі ў выключных выпадках. Вось і запомніў усе выпадкі, калі трэба было дзеля сапраўды важнай справы сабраць некалькі дзясяткаў падпісантаў. Каб легалізаваць і ўзаконіць таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», я напісаў зварот у Саюз пісьменнікаў. Адзін з першых подпісаў, які з'явіўся на тым дакуменце, — подпіс паэткі Жэні Янішчыц. У той вечар ішоў моцны дождж, увесь мокры я прыйшоў на кватэру да Жэні. Яна ўважліва прачытала ліст. Сказала, што моцна сумняваецца ў паспяховасці нашай справы, але подпіс паставіла. Мне было важна атрымаць некалькі подпісаў ад старэйшых і паважаных паэтаў. Акрамя Жэні, ліст падпісала яшчэ і Рая Баравікова. Да іх подпісаў дадалося яшчэ з тры дзясяткі аўтографаў уласна «тутэйшых». Кіраўніцтва саюза праз «не хачу», «не люблю», «не буду» надало нашай рэвалюцыйнай і баявой арганізацыі легальны статус. Перакананы, што якраз подпіс Жэні Янішчыц адыграў у гэтай справе важную і стваральную ролю. Яна паручылася за нас, за сваіх аўтараў з паэтычных старонак часопіса «Маладосць». Яна рызыкнула і ў гэтым выпадку не прайграла.

## НАЧАЛЬСТВА

Янішчыц любіла начальства. Гэта вельмі своеасаблівы талент — падабацца начальству і ў дадатак любіць чыноўнікаў шчыра. Жэня Янішчыц мела такія адметныя здольнасці, чым і вылучалася сярод сваіх каляжанак кшталту Іпатавай, Бондар, Алексіевіч і Коўтун. Яны таксама падабаліся начальству і таксама яго любілі, але не так шчыра і аддана, як Жэня. Можна сказаць, што ўсё пакаленне Янішчыц любіла ўладу, дзяржаву і начальнікаў. Уладатрымальнікі сплачвалі за праўдзівую любоў і глыбокую павагу такім, як Жэня, рознымі ўзнагародамі. Жэню пасылалі за дзяржкошт у самыя розныя камандзіроўкі. Нават у заакіянскую ААН выпраўлялі. Начальства дапамагала Жэні вырашаць побытавыя праблемы і спрашчала яе выхады са складаных сітуацый. Часам такая дапамога збоку выглядала дзіўнай. Але калі б на сваё вушы пачуць, як пяшчотна вымаўляла Янішчыц прозвішча чыноўніцы Сняжковай, адразу ўсё стала б зразумелым. Далёка не кожная маці так ласкава вымаўляе імя свайго любімага дзіцяці... З вуснаў пісьменніцы Янішчыц прозвішча чыноўніцы Сняжковай гучала так, нібыта яна намесніца ідэальна белага Бога ў нашым брудным і цёмным свеце. «Сняжкова!» — так можна было сказаць толькі пра свайго анёла-ахоўніка, калі дапусціць, што твой анёл працуе ў беларускім урадзе. Жэня моцна здзівілася і ледзь не абурылася, калі даведалася, што я не ведаю пасады Сняжковай. «Твой тата — Вячаслаў Уладзіміравіч — ведае дакладна! А ты ў яго нават не пацікавіўся?» — Янішчыц дзівілася шчыра, як дзіця. А я і сапраўды не цікавіўся дзяржаўнымі пасадамі ні тады, ні пазней.



Фота Алены Арамчык.

## КРЫЖА-ЧАЛАВЕК

Доўгі час Жэня жыла ў цокальным паверсе вялікага дома, што і цяпер узвышаецца над вуліцай Ульянаўскай, паміж Энгельса і Чырвонаармейскай. У Жэнінай кватэры амаль заўсёды панаваў паўзмрок. Навет у светлыя дні туды амаль не траплялі сонечныя промні. Паэтка працавала з настольнай лямпай. Стол стаяў пад акном. Побач са сталом была нешырокая канапа. Новыя вершы Жэня раскладала на канапе. Калі прыходзілі госці, паэтка брала з канапы аркушы і чытала... Яе хвалілі. Яна любіла цёплыя словы пра свае вершы. Без такіх слоў паэткам цяжка. Жэня скардзілася на цяжкасці. Яна скардзілася і на пераслед. Ёй здавалася, што калі яна ўночы запальвае лямпу, да яе акна з цемрадзі падыходзіць чалавек. Ён вялікі. Ён апрануты ва ўсё чорнае. Ён узнімае рукі і робіцца падобным да крыжа. Раней Жэня думала, што нехта з зайздросных паэтаў так па-дурному жартуе. Пазней яна пачала бачыць у крыжа-чалавеку д'ябла. Як толькі паэтка выключала сваю настольную лямпу, крыжа-чалавек прападаў, расплываўся, як дым. Ён замінаў ёй працаваць уночы, а ўдзень ёй замінаылі працаваць успаміны пра начнога вялікага прывіда.

## КОЎДРА

Перад тым, як скочыць з гаўбца, яна загарнулася ў коўдру... Было так халодна? Нервовая дрыготка біла так моцна, што хацелася яе суняць, сціснуўшы плечы коўдрай? Зрабілася так сцюдзёна, нібыта з усіх чатырох бакоў пачалі дзьмуць вятры небыцця? Цяпер ніхто не знойдзе дакладных адказаў на гэтыя і падобныя пытанні. Вядомым застаецца толькі той факт, што быў канец лістапада, і перад тым, як скончыць жыццё самагубствам, паэтка Яўгенія Янішчыц абгарнулася коўдрай. Можа, ёй здавалася, што ўдар аб зямлю будзе не такі балючы, будзе хоць трошкі мякчэйшы, калі цела абгарнуць коўдрай... Здагадкі. Версіі. Меркаванні. Іх безліч. Яны круцяцца, як каламутны вір у рэчцы, перапоўненай навальнічнай вадою. Круцяцца вакол таго факта, што Жэня перад смерцю загарнулася ў коўдру.

## ВЕРСІІ

Ёсць шмат розных версій самазабойства паэткі Яўгеніі Янішчыц.

Хварэла пасля аварыі, пакутвала ад боляў і не вытрывала...

У красавіцкім нумары за 1989 год часопіса «Крыніца» выкладзены такі погляд на трагічнае здарэнне: «Зрэшты, застаўся і зараз нацягнуты шнур на балконе, на якім вешала яна ў той дзень, у тую раніцу памытую кашулю сына; таму можна ўсё ж думаць, што аступілася, нахілілася неасцярожна, выпадкова сарвалася... Няхай бы так і было...»

Прачытала кепскую рэцэнзію на сваю кнігу і ўчыніла ў рэдакцыі, дзе збіраліся друкаваць рэцэнзію, страшэнны скандал...

Гісторык Анатоль Сідарэвіч шмат каму расказваў, што ў рэдакцыю тыднёвіка «ЛіМ» Янішчыц прыходзіла з пісьменніцай Валянцінай Коўтун. Яны разам пагражалі здзейсніць двайное самагубства, калі адмоўны водгук пра вершы Жэні пабачыць свет.

Заперажывала праз той скандал так, што згубіла сэнс жыцця...

Збольшага, людзі тлумачаць самагубства Янішчыц зразумелымі і простымі рэчамі накшталт збегу кепскіх акалічнасцей. Такое тлумачэнне падтрымлівае і паэт Леанід Галубовіч.

Назбіралася маркоты-гаркоты столькі, што найлепшае — абгарнуцца коўдрай і скочыць з восьмага паверха...

Ёсць яшчэ версія містычная і жудасная... Сам д'ябал наведаўся да паэткі і замовіў ёй рэквіем. Так, некалі даўно князь бездані наведваўся і да Моцарта з падобнай замовай.

Жэня спрабавала пісаць рэквіем, але ў яе атрымлівалася прымітыўна. Найлепшае, што выпісалася:

*Вы з пякельных дарог вырасталі,*
*Паўставалі з агню, як з былін...*

Найгоршым у тым рэквіеме было прысвячэнне — «Памяці П. М. Машэрава».

Паэтка так спераживалася і змучылася, што расказала пра д'яблаву замову сяброўкам.

За дзень да самагубства Жэня сказала сяброўцы Раісе Баравіковай: «Мне прыслалі рэквіем, і трэба сыходзіць з жыцця».

У містычнай версіі князю цемрадзі не спадабалася раскрыццё яго таямніцы, не спадабалася і выкананне замовы, не спадабалася і доўгаязыкасць. Гэта ён змусіў паэтку скінуцца з гаўбца і забіцца.

# СЛАЎНАЯ ТРОЙЦА Ў РОЛІ ... ДЭТЭКТЫВАЎ

## НАПІСАЎ? УМЕЛА ПАДАЙ

Мала што-небудзь добра згатаваць, трэба яшчэ ўмела і падаць. Звычайна такога няпісанага правіла прытрымліваюцца руплівыя гаспадыні, якія не толькі адчуваюць сябе на кухні каралевамі, а і заўсёды належны падыход да гасцей знаходзяць. Хоць, калі разабрацца, гэта правільным будзе і ў дачыненні да літаратурнай справы. Бяда толькі, што часцей за ўсё самі пісьменнікі на гэта належнай увагі не звяртаюць. Пішуць цікавыя кнігі, а як па-сапраўднаму зацікавіць чытача, асабліва не задумваюцца. Маўляў, пачне знаёміцца з творамі, сам упэўніцца, наколькі ўсё гэта варта яго ўвагі. Таму часам і з'яўляюцца безаблічныя анатацыі з агульнымі словамі, якія можна прапанаваць ці не да кожнай кнігі, унёсшы ў тэкст толькі невялікія ўдакладненні. Хоць бываюць часам і прыемныя выключэнні. Кніга Вольгі Нікольскай «Выкраданне шэдэўра, ці Новыя прыгоды агентаў "КалбаФірЖык"», якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», — гэтаму пацвярджэнне.




Анатацыя адразу запэўнівае: хлопчыкаў і дзяўчынак (кніга адрасавана найперш дзецям малодшага школьнага ўзросту) чакае захапляльная гісторыя з элементамі дэтэктыва. Чаго-чаго, а твораў дэтэктыўнага жанру ў беларускай дзіцячай літаратуры не так і шмат.

Партрэт В. Нікольскай, змешчаны ў кнізе, адразу спрацоўвае на эфект яе асабістай прысутнасці. Звяртаючыся да сваіх будучых чытачоў, яна быццам непасрэдна размаўляе з імі. Гаворка гэтая шчырая, адкрытая, але разлічаная найперш на тых, хто ўжо знаёмы з яе папярэднімі кнігамі «Мы — агенты "КалбаФір"» і «Прыгоды агентаў "КалбаФірЖык"» і паспеў палюбіць чатырохногіх герояў — катоў Калбаса, Кефіра і сабаку Рыжыка, аказаўся ў гэтай дружнай непаседлівай кампаніі на старонках другой кнігі.

> *Калі сабраць усе тры аповесці-казкі разам, атрымліваецца першая трылогія-казка ў нашым нацыянальным прыгожым пісьменстве. Па сутнасці, В. Нікольская ідзе тым жа шляхам, які ў рускай літаратуры пратораў вядомы дзіцячы празаік Мікалай Носаў. Яго знакамітай трылогіяй зачытвалася не адно пакаленне савецкіх дзяцей, і з гэткім жа задавальненнем знаёміцца з ёй ужо іх унукі з XXI стагоддзя: «Прыгоды Нязнайкі і яго сяброў», «Нязнайка ў Сонечным горадзе», «Нязнайка на Месяцы».*

## УСЁ ТАК І БЫЛО

На самым пачатку В. Нікольская дае зразумець, што ў яе новай аповесці-казцы падзеі і персанажы не выдуманыя, а рэальныя. Прыйшоўшы неяк з дочкамі ў музей, яна напаткала знаёмую тройцу:

*«И вот неожиданная встреча с ними в моем родном городе М. у музея, куда я вместе с дочками Ксюшей и Машей пришла на выставку. Музей оказался закрыт. А всё потому, что из него исчезла знаменитая картина, шедевр…*

*Мимо нас, таинственно подмигнув, в образах детективов прошли Колбас, Кефир и Рыжик. Мы поняли: друзей ждёт важное дело. А вскоре по скайпу они рассказали нам о том, что приключилось с ними во время расследования этого необычного преступления».*

Як, уражвае?! Інтрыгуе?! Да ўсяго пісьменніца ненавязліва падкрэсліла, што яна напісала не проста чарговую аповесць-казку, а «сучасную аповесць-казку» — менавіта так пазначыла яна жанр сваіх твораў у падзагалоўку. Сучаснымі творамі для дзяцей, як правіла, называюцца тыя, у якіх, нават калі яны казачныя, з элементамі фантастыкі, абавязкова прысутнічаюць і рэаліі сённяшняга дня. На карысць гэтага ў «Выкраданні шэдэўра…» сведчыць хоць бы тое, што персанажы аповесці-казкі ўмеюць размаўляць па скайпе.

Нават тыя чытачы, якія дагэтуль не былі знаёмы з героямі В. Нікольскай, лёгка ўпэўняцца, што яны — свае, блізкія, як аднакласнікі і сябры па агульным двары. То чаму б і з катамі Калбасам, Кефірам, сабакам Рыжыкам не пасябраваць! Да таго ж яны яшчэ і такія… крутыя. Не будзем баяцца гэтага слова, усё ж ім сённяшнія хлопчыкі і дзяўчынкі карыстаюцца даволі часта. А што героі аповесці-казкі гэткія ж, як і ўсе, толькі на чатырох лапах, добра відаць з цудоўных ілюстрацый знакамітага Сяргея Волкава — аднаго з самых выдатных сучасных мастакоў, якія афармляюць кнігі для дзяцей.

Несумненна, яны блізкія і яму самому. С. Волкаў ілюстраваў і папярэднія кнігі В. Нікольскай. Ён паказаў чатырохногіх дэтэктываў такімі, якімі, як відаць з твора, бачыць гэтым разам іх сама пісьменніца: у сініх вузкіх джынсах і малінавых клятчатых пінжаках. Аб такой вопратцы для іх паклапаціўся дзядуля Цімафей Іванавіч, у якога яны жылі апошнім часам:

*«— Сейчас так модно, — сказал он. — Нужно, чтобы вы от горожан не сильно отличались, поменьше внимания к себе привлекали, а то это и расследованию навредить может».*

## УПАЎ НА КАТА ... АЎТОБУС

Сюжэт, як відаць ужо з самой назвы, звязаны з пошукам карціны, якая была ўкрадзена з музея. Аднак наўрад ці можна адшукаць яе, не вызначыўшы злодзея. Хочаш-не хочаш, а тут ужо трэба станавіцца дэтэктывамі. У іх і ператвараюцца Калбас, Кефір і Рыжык. Адначасова да іх далучаюцца і іншыя персанажы, таксама чатырохногія: хто па ўласнай волі, жадаючы дапамагчы настойлівай і няўрымслівай тройцы, хто па збегу акалічнасцей не можа застацца ў баку ад таго, што адбываецца... Усё надзвычай сур'ёзна, усё адбываецца на высокім прафесійным узроўні, нібыта дзейнічаюць вопытныя дэтэктывы.

Аднак В. Нікольская, як добры знаўца псіхалогіі дзяцей (паўтаруся: дзвюх дачок гадуе), добра ведае, што ў выхаванні нельга кідацца ў крайнасці. Пастаяннае імкненне заўсёды і ва ўсім заставацца толькі сур'ёзным можа і нашкодзіць. Хлопчыкі і дзяўчынкі пажартаваць любяць і пасмяяцца. Навошта ж пазбаўляць такой магчымасці літаратурных персанажаў, якія ім падабаюцца. Таму на старонках яе кніг шмат досціпаў, іскрыстага гумару, дзякуючы якому настрой і ў дарослых падымаецца. Што ўжо ў такім разе казаць пра саміх дзяцей.

Не абышлося без гумару і ў аповесці-казцы «Выкраданне шэдэўра…». У залежнасці ад сітуацыі ён розны: часам гэта проста ледзь прыкметная ўсмешка, месцамі — мімалётная рэпліка каго-небудзь з персанажаў. Калі-нікалі гэта адчуваецца на ўзроўні падтэксту. Але ёсць сітуацыя, пададзеная настолькі па-майстэрску, што напрошваецца выснова: а можа, у далейшым В. Нікольскай трэба паспрабаваць сябе і ў гумарыстычным жанры?

Рыжык стаў сведкам, як машына збіла ката. Адразу ж кінуўся яму на дапамогу, але той, ледзь жывы, убачыўшы яго, зашыпеў. Чаму — зразумела: каты сабак не любяць. Гэта Калбас і Кефір даўно паладзілі між сабой, а вось Мурзік-Васька-Масік (так звалі яго колішнія гаспадары), з сабакамі не прывык кантактаваць. Новыя сябры вязуць небараку ў ветэрынарную лячэбніцу. Трэба ж было так здарыцца, што нечакана на яго ўпаў… аўтобус. Падобнае немагчыма? Зразумела, не. Так падалося Рыжыку. У сапраўднасці…

## РАЗ ПЕРШАПРАХОДЦА, ДВА...

Хто ўпаў на Рыжыка, што пасля гэтага пачалося, як адбывалася расследаванне крадзяжу карціны з музея... Падахвочваючы чытацкую цікаўнасць, сакрэтаў раскрываць не буду. Шэрлак Холмс-Калбас і навасьпечаныя Ватсаны ў асобе Кефіра і Рыжыка дзейнічаюць, як вопытныя дэтэктывы, нягледзячы, што ўпершыню займаюцца такой важнай справай. Аднак прафесіянал — заўсёды прафесіянал. Пра што гэта сведчыць? Ды пра тое, што В. Нікольская цудоўна валодае сакрэтамі дэтэктыўнага жанру. Бадай, не абышлося без грунтоўнага знаёмства з адпаведнай літаратурай. Але, хутчэй, навідавоку ўсё ж іншае: таленавіты чалавек можа пры неабходнасці вырашаць звышзадачу, спрацоўвае інтуіцыя мастака. Адсюль і з'яўленне ў творы сітуацый, якія трымаюць чытача ў пастаянным напружанні.

Асноўная сюжэтная лінія звязана з сабакам Уладленам, пра якога загаварылі як пра вядомага мастака, дый яшчэ заснавальніка новага мастацкага стылю, з лёгкай рукі журналістаў названага зоапрымітывізмам. Яго шэдэўр — карціна «Мурка Ліза», якую нечакана і выкралі з музея. Хто стаіць за гэтым? Гэта звычайнае выкраданне ці ўсё ж нешта большае? Калі так, дык што канкрэтна? Пытанняў шмат і на кожнае з іх неабходна знайсці вычарпальны адказ. Чым і займаюцца дэтэктывы на чале з катом Калбасам. З нічым падобным да гэтага сутыкацца не даводзілася: у беларускай дзіцячай літаратуры да аповесці-казкі «Выкраданне шэдэўра…» не было такога жанру, як дэтэктыў. В. Нікольская выступае першапраходцам. Першапраходца яна і па іншай прычыне.

Калі сабраць усе тры аповесці-казкі разам, атрымліваецца першая трылогія-казка ў нашым нацыянальным прыгожым пісьменстве. Па сутнасці, В. Нікольская ідзе тым жа шляхам, які ў рускай літаратуры пратораў вядомы дзіцячы празаік Мікалай Носаў. Яго знакамітай трылогіяй зачытвалася не адно пакаленне савецкіх дзяцей, і з гэткім жа задавальненнем знаёміцца з ёй ужо іх унукі з XXI стагоддзя: «Прыгоды Нязнайкі і яго сяброў», «Нязнайка ў Сонечным горадзе», «Нязнайка на Месяцы».

## БЫЦЬ ТЭТРАЛОГІІ?

Але, магчыма, В. Нікольская стане яшчэ і аўтарам першай у беларускай літаратуры тэтралогіі для дзяцей. На такое спадзяванне настройвае завяршэнне аповесці-казкі «Выкраданне шэдэўра…». Пачуўшы ўхвальныя словы мышкі Луізы, *«друзья закивали головами, переглянулись и весело засмеялись. Они еще не думили о том, что дальше их ждут новые, не менее необычные приключения».*

> *Да ўсяго пісьменніца ненавязліва падкрэсліла, што яна напісала не проста чарговую аповесць-казку, а «сучасную аповесць-казку» — менавіта так пазначыла яна жанр сваіх твораў у падзагалоўку. Сучаснымі творамі для дзяцей, як правіла, называюцца тыя, у якіх, нават калі яны казачныя, з элементамі фантастыкі, абавязкова прысутнічаюць і рэаліі сённяшняга дня. На карысць гэтага ў «Выкраданні шэдэўра…» сведчыць хоць бы тое, што персанажы аповесці-казкі ўмеюць размаўляць па скайпе.*

Сапраўды, Калбас, Кефір і Рыжык пра гэта не могуць здагадвацца. Затое ўсё добра ведае сама В. Нікольская, якая і дала ім жыццё. Магчыма, ужо вымалёўваецца сюжэт чарговай, чацвёртай кнігі. Як працяг першых трох, але разам з тым у многім і сюжэтна самастойнай. Урэшце, так заўсёды і бывае, калі ствараецца па-сапраўднаму прадуманы, дэталёва ўзважаны цыкл твораў.

На карысць таго, што працяг не проста можа быць, а абавязкова павінен быць, сведчаць яшчэ дзве прычыны. Яны ўзаемазвязаны паміж сабой. Гэта, безумоўна, сведчанне таго, без чаго не можа быць ніводнага па-сапраўднаму яркага высокамастацкага твора. Канечне, абавязковая наяўнасць належнага таленту. Ён жа ў В. Нікольскай, як засведчылі яе кнігі, ёсць. Дый такі, якому застаецца па-добраму пазайздросціць, але які вымагае і надзвычай адказнага стаўлення да напісання новых твораў. Такой думкі, між іншым, прытрымліваецца і аўтар прадмовы «Умейце казку захаваць!..» Алесь Карлюкевіч. Адзначаючы набыткі сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры, ён слушна заўважае, што менавіта лепшыя кнігі «дапамагаюць развіваць дзіцячую фантазію, а самае галоўнае — вучаць дабрыні, любові, справядлівасці, замацоўваюць у свядомасці юнага чытача асноўныя чалавечыя каштоўнасці». Свае развагі А. Карлюкевіч завяршае словамі, якія хачу сказаць і ад свайго імя: «І сам як чытач чакаю сустрэч з новымі казкамі. З новымі і цікавымі аповедамі цудоўнага дзіцячага празаіка Вольгі Нікольскай».

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Незвычайная таямніца звычайнасці

Мастацкі свет, які стварае ў сваіх творах Кацярына Мядзведзева, настолькі арганічны і самастойны, што дзясятак розных апавяданняў і аповесцей з лёгкасцю можна аб'яднаць у адно эстэтычнае цэлае. Вядома, героі фармальна не звязаны паміж сабой паслядоўнасцю сюжэта ці месцам дзеяння, аднак гэта лёгка ўявіць: адно вялікае старасвецкае мястэчка з акуратнымі дамамі, атуленымі шыкоўнымі садамі і кветнікамі і чыста падмеценымі ходнікамі, па якіх жыхары шторанку ходзяць на кірмаш, вітаюцца, вядуць няспешныя размовы пра надвор'е і суседзяў, а пасля вяртаюцца на свае кухні, у пакоі з утульнымі фатэлямі, кабінеты з кніжнымі паліцамі… Усё падаецца звычайным, але толькі знешне: у кожнай хаце хаваецца таямніца — у сямейным паданні, спадчынным скарбе, адшуканым ліставанні, рэцэпце чароўных зёлак або і проста за дзвярыма, якіх насамрэч няма. Вядома, непадалёк мястэчка — густы загадкавы лес з непрыкметнымі рыпучымі хацінкамі, дзе праходзіць зусім іншае, трывожнае, прывіднае жыццё.

У гэтым падманліва спакойным свеце — надзвычай цікавае перапляценне матываў твораў нямецкіх рамантыкаў з характэрнай для іх змрачнавата-скрушнай, але ўсё ж не вусцішнай атмасферай (адсылку да Гофмана і Навaліса увесь час даюць імёны персанажаў), казак Гаўфа (з такімі асацыяцыямі чытаецца «Спадарыня Трынога»), тыповых рыс галоўных герояў раманаў Людмілы Рублеўскай («Калі я і жамчужына, то няправільнай формы… Не ўпісваюся ў сямейныя каралі») і класічных сюжэтаў англійскіх дэтэктываў.

Менавіта такое адчуванне ўзнікае падчас чытання кнігі К. Мядзведзевай «Разламашкі майстра Люфта» (Мінск, «Выдавец А. М. Янушкевіч», 2017): усё знаёмае, пазнавальнае, тыповае, але ў такой добра апрацаванай стылёва-мастацкай аздобе, што не абвінаваціш аўтарку ў банальнасці.

Разгадка таямніцы, якая прысутнічае ў кожным творы, заўсёды ляжыць на паверхні, але не раскрываецца ні персанажам, ні чытачу да апошняй старонкі. Галоўны герой аказваецца не тым, кім яго ўсе ўспрымаюць, любоўныя лініі закручваюцца па-за межамі славутага трохвугольніка, а небяспека хаваецца там, адкуль не акурат ніхто не чакаў. Так, гэта не новая, шмат разоў паўтораная ва ўсіх магчымых жанрах і відах мастацтва схема. Мяркую, што аўтарка, якая так шчодра рассыпала па кнізе шматлікія алюзіі на вядомыя творы сусветнай літаратуры, гэта ўсведамляе. Каштоўнасць «Разламашак» К. Мядзведзевай не ў стварэнні арыгінальнага сюжэта.

Аповесць «Разламашкі майстра Люфта», паводле якой названа і кніга, дае шмат ключоў да разумення мастацкага свету, у якім жывуць героі К. Мядзведзевай. Разламашкі — гэта ўнікальныя самаробныя інжынерныя вынаходкі легендарнага майстра Люфта, якія ніколі не з'яўляюцца тым, чым падаюцца на першы погляд. Прыгожыя і, як вядома, прыдатныя толькі для збірання пылу сувеніры аказваюцца кавамолкамі, куфэрачкамі для ўпрыгажэнняў, штопарамі, сальніцамі... Дарэчы, і сам майстар Люфт, які лічыцца памерлым, знаходзіцца ў адной з разламашак. Галоўнае — ведаць, як правільна «разламаць», каб дабрацца да сутнасці. Гэта рэчы ў сабе. Тое ж можна сказаць і пра творы К. Мядзведзевай. Часам неарыгінальны сюжэт пра «жамчужыну няправільнай формы», то бок непрывабную дзяўчыну, якая ўрэшце шчасліва выходзіць замуж па ўзаемным каханні, прыемны для лёгкага чытання, але ім не вычэрпваецца мастацкая задума. Апавяданні і аповесці пісьменніцы — таксама своеасаблівыя рэчы ў сабе, і ўзнагароджаны будзе той чытач, які ведае, на які патаемны гузік націснуць, каб правільна «разламаць» сюжэт.

У агульнай іранічнасці стылю багата падказак: напрыклад, калі гераіня ў роспачы апускаецца на «нейкі дэкаратыўны валун, парослы мохам», то становіцца відавочна, што героі ўсё-ткі жывуць не ў казачнай рэальнасці, а ў казачных дэкарацыях. А значыць, творы К. Мядзведзевай не проста казкі для дарослых пра каханне, пошукі скарбаў і чароўныя зёлкі, а аднаўленне пэўнай эстэтычнай мадэлі свету, населенай адпаведнымі такой рамантычнай атмасферы героямі.

У творах К. Мядзведзевай надзвычай прыгожы, касцюміраваны, стылізаваны свет нерэальных пакояў і пачуццяў так шчыльна пераплятаецца з абсалютна рэальнымі пакутамі сэрца, сумлення і развагамі сучаснага чалавека, што пачынаеш падазраваць пісьменніцу ў правакацыі: наш свет стэрэатыпных паводзін і рэакцый не больш рэальны за казачныя дэкарацыі, створаныя паводле класічных правіл гофманаўскай эстэтыкі. Героі, як і чытач, часам трацяць адчуванне сапраўднасці, межы паміж звычайнай сядзібай заможнага чалавека (дзе частуюць смачнымі абедамі і ўпрыгожваюць пакоі свежымі кветкамі) і зачараваным домам ведзьмака (які кпіць з насельнікаў, мяняючы месцамі вокны, дзверы, пакоі). Прычым самімі героямі такія метамарфозы ўспрымаюцца як нешта звычайнае, зразумелае. Хіба можа быць інакш у мястэчку, дзе юнакі выпраўляюцца ў школу вытанчаных рамёстваў альбо ўніверсітэт магіі?




Стварэнне ілюзіі рэальнасці — улюбёны мастацкі прыём К. Мядзведзевай. Нават у тых творах, якія крыху выбіваюцца з агульнай казачна-рамантычнай танальнасці. Напрыклад, апавяданні «Кларыса» і «Рыпучая хацінка» адлюстроўваюць свет вачыма памерлых людзей. Прывід дзяўчынкі Кларысы па-ранейшаму жыве ў бацькоўскім доме, дапамагае даглядаць малодшую сястрычку, выкрывае нядбайнасць і распуснасць нянькі і сябруе з суседскім хлопчыкам Петэрам… Кларыса не верыць у прывідаў, і тое, што яна сама — прывід, высвятляецца толькі напрыканцы апавядання. А ў рыпучую хацінку, схаваную ў густым непралазным лесе, прыязджае не стомлены гарадскім тлумам адзінокі мужчына, як падаецца на першы погляд, а вадзіцель таксі, які загінуў у аварыі. Ён жыве ў самотным свеце адчувальных, але несапраўдных пахаў і гукаў, пакуль не сустракае непадалёк хацінкі цяжарную жанчыну — менавіта яе ён вёз у радзільню ў той трагічны дзень. Жанчына — сілай любові і ўяўлення — арэчаўлівае неіснуючы свет, і калі аднойчы ля хацінкі з'яўляецца лесвіца ў неба, героі пачуваюцца разгублена: у пошуках новага раю баяцца страціць стары.

І гэтая тэма — выбару паміж жаданым і дадзеным — гучыць у кожным творы. Імкнучыся здабыць ключ ад шчасця, героі ўрэшце выбіраюць зямное неідэальнае жыццё — з болем, расчараваннямі, стратамі, якое ўсё-ткі поўніцца каханнем, радасцю імгненняў, адкрыццямі і верай. Мабыць, менавіта таму герой аповесці «Разламашкі майстра Люфта» студэнт школы вытанчаных рамёстваў Антон, атрымаўшы нарэшце доступ да калекцыі запаветных разламашак, разумее, што не гатовы адмовіцца ад свету звычайнага на карысць свету чароўнага.

К. Мядзведзева зманліва водзіць сваіх звычайных, нічым не адметных герояў заблытанымі сцежкамі вядзьмарскіх пастак, прымушае іх адчуваць сябе абраннікамі лёсу, а ў якасці ўзнагароды ўрачыста ўручае… расчараванне. Аўтарскія сімпатыі заўсёды на баку герояў, аднак замест спачування — нязменна іронія. Чароўная яблыня, плады якой з'яўляюцца лекамі ад кахання, насамрэч аказваецца дубам, а вядзьмарскае зелле, якое знімае «праклён нябачнасці» і гарантуе жаночае шчасце, — аптэчным сродкам для вывядзення вяснушак. Іронія аптымістычная і жыццесцвярджальная: «не шукай ты шчасця-долі на чужым далёкім полі», бо яно, як водзіцца, пад самым тваім парогам.

Праўда, непрадказальнасць сюжэтных паваротаў выкарыстоўваецца аўтарам з такой паслядоўнасцю, што ўжо сама па сабе становіцца прадказальнай. У гэтым ёсць небяспека для творчага развіцця — трапіць у зачараванае кола адной мастацкай схемы і ўрэшце, як у той вядзьмарскай сядзібе, не знайсці выйсця там, дзе яно меркавалася быць. А пра тое, што К. Мядзведзева ўжо спрабуе яго адшукаць, сведчаць зусім кароткія, але цалкам адрозныя па змесце апавяданні «Дзе ты, Люка», «Жыў-быў ты…», «Табе я месца саступаю».

Карацей, калі вам цікава, дзе расцвітаюць чорныя ружы, калі вам неабходны чароўны яблычак, які вылечвае ад неўзаемнага кахання, і калі вы марыце раскрыць таямніцу разламашак майстра Люфта, то гэтая кніга для вас. Баяцца прывідаў, спадарыні Трыногі, раслін і жывёлін, якія ўмеюць размаўляць, няварта: заўсёды можна паклікаць Таго, Хто Забірае Страхі, а ён ужо дакладна будзе баяцца за вас (у сэнсе замест вас). І калі вы лічыце, як адна з гераінь кнігі Дэйсі Мэй, што «ў кожнага ёсць свой праклён, але не ў кожнага ёсць свой чараўнік», то Кацярына Мядзведзева нагадае: паглядзіцеся ў люстэрка і вы ўбачыце там свайго чараўніка.

**Жана КАПУСТА**

# Дыялог з Маленькім прынцам і Вялікім майстрам




Працягваецца добрая традыцыя знаёміць нашых дзетак з найбольш цікавымі творамі еўрапейскай літаратуры ў перакладзе на родную мову. Гэтым разам — з перавыданнем адзінага перакладу неўміручага «Маленькага прынца» Антуана дэ Сент-Экзюперы на беларускую мову, ажыццёўленага Нінай Мацяш у 1989 годзе (Мінск, «Выдавец Зміцер Колас», 2017). Кніга, якая ўжо мела статус рарытэта і, акрамя некалькіх асобнікаў у Нацыянальнай бібліятэцы, захавалася хіба ў прыватных кнігазборах, зусім нядаўна стала даступнай для больш шырокага кола зацікаўленых чытачоў. Перавыданне з'явілася ў межах серыі «Добрая кніга» пры падтрымцы кампаніі *velcom*. Значную частку тыражу плануецца перадаць у бібліятэкі беларускіх сярэдніх школ.

Выданне кнігі было прымеркавана да прэзентацыі ў кінатэатрах краіны аднайменнага французскага мультфільма ў беларускай агучцы, аднак, вядома, значнасць гэтай падзеі выходзіць за межы інфармацыйнай нагоды. «Маленькі прынц» — гісторыя для любога часу, краіны і ўзросту, перастворaная больш чым на 300 моваў свету. Вядома, кніга, якая будзе чытацца і перачытвацца, павінна мець і адпаведныя паліграфічныя якасці: цвёрдая вокладка, шчыльная папера, арыгінальныя каляровыя ілюстрацыі аўтара. Такое рэдкае сёння чытацкае шчасце — проста чытаць, спасцігаючы напоўніцу мастацкі свет, не адчуваючы жадання нешта выправіць — цалкам характарызуе пераклад, ажыццёўлены слыннай беларускай паэткай на высокім прафесійным узроўні. Актуальнасць гэтага твора сёння ці не большая, чым у год першага выхаду ў свет, бо сучаснасць усё мацней аддаляе чалавека ад разумення сапраўднай вартасці чалавечых стасункаў, усведамлення адзіноты маленькага чалавечка ў бязлітаснай сістэме дарослых прыярытэтаў. На жаль, небяспека падпарадкавання жорскай іерархіі штучных каштоўнасцяў, агучаная вялікім майстрам, па-ранейшаму ходзіць за кожным з нас. Магчыма, дыялог з Маленькім прынцам, да якога далучыцца той, хто пачне чытаць-перачытваць кнігу сам-насам альбо ўголас разам з дзецьмі, хаця б на кароткі час суцішыць хвалі непаразумення паміж блізкімі людзьмі, дазволіць пачуць адно аднога па-сапраўднаму, а не ў межах распаўсюджанай сучаснай формулы ветлівасці.

Гісторыя пра Маленькага прынца, растыражаваная ў безлічы постмадэрнісцкіх (удалых і не вельмі) пераасэнсаваннях, у тым ліку і ў згаданым французскім мультфільме, заслугоўвае таго, каб быць перачытанай у арыгінальным змесце.

**Наталля НАРУТОВІЧ**

# ЛОЎКАСЦЬ РУК — І СУЦЭЛЬНАЕ ЧАРАЎНІЦТВА

## Пясочная графіка асвойвае галерэйныя прасторы



*Ірына Цітова «За сцэнай» (Расія, г. Масква).*

У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» адкрылася міжнародная выстаўка пясочнай графікі «Па-за часам», на якой прадставілі творы, выкананыя ва ўнікальнай тэхніцы пясочнай ілюстрацыі.

Выстаўка атрымалася ўніверсальная, сарыентаваная як на дарослага, так і маленькага гледача. Яна захапляе не толькі праглядам прадстаўленых работ, тут можна паўдзельнічаць у майстар-класе, пад кіраўніцтвам мастакоў стварыць свой шэдэўр. Ёсць адчуванне, што ты назіраеш за чараўніцтвам: на шкляным стале з падсветкай мастакі выводзяць грацыёзныя лініі.

— Замест фарбаў і алоўкаў у нас пясок, замест пэндзляў — рукі, а замест палатна — паверхня з падсветкай, — расказвае куратар выстаўкі Вольга Радзецкая. — У нас сыпкая тэхніка работы. Выкарыстоўваецца розны пясок: камусьці больш прыемна працаваць з пяском сярэдняй фракцыі, камусьці буйнай. Я выбіраю пясок па тактыльных адчуваннях. Пясочная анімацыя развіваецца цяпер даволі актыўна, нават у Расіі і Украіне ўжо прадаецца спецыяльны пясок, таму прастора для развіцця кірунку ёсць. Аднак нават калі няма магчымасці набыць такі спецыяльны пясок, наша прырода дапамагае. Напрыклад, я спачатку выкарыстоўвала пясок з ракі. Яго даводзілася прасейваць, прамываць, але гэта таксама садзейнічала развіццю творчага патэнцыялу.

Пясок дае магчымасці раскрыць самыя розныя тэмы. Напрыклад, мастачка Вольга ЛіSіцкая выбрала тэму нараджэння дзіцяці: яна перадае ўнутраны стан маці перад самай важнай падзеяй у жыцці. А мастачка Торы Вараб'ёва звяртаецца да рамана Міхаіла Булгакава «Майстар і Маргарыта»: праз сваю кампазіцыю адлюстроўвае ўсю сутнасць літаратурнага твора. Захапляюць карціны Ірыны Цітовай, якая паспрабавала паказаць балет за сцэнай.

Усе прадстаўленыя на выстаўцы мастакі цяпер не ўяўляюць сваё жыццё без пясочнай графікі, аднак у кожнага была гісторыя, як пясок змог зачапіць, прыцягнуць увагу. Так, Вольга Радзецкая, атрымаўшы адукацыю эканаміста, зразумела, што ёй не хапае выйсця энергіі, і пачала шукаць сябе ў творчасці:

— У дзяцінстве я шмат малявала. Звярнуцца да творчасці мяне падштурхнула жыццёвая сітуацыя. Было неабходна кудысьці дзець энергію. Паспрабавала займацца валяннем і зразумела, што зусім не маё. А потым даведалася пра мастачку Алену Чавусаву з Брэста, якая, дарэчы, сёння таксама ўдзельнічае ў выстаўцы «Па-за часам». Лена выкладала пясочную графіку дзецям. Я адправілася да яе ў студыю, папрасіла пазаймацца са мной, і мяне захапіў пясок. Алена сваім стаўленнем да матэрыялу, да выніку працы ўразіла мяне. Калі я зразумела, што маё захапленне перарасло ў нешта большае, пачала ездзіць на розныя фэсты, набірацца вопыту. Цяпер пясок стаў часткай майго жыцця.

Выстаўка мае поспех. Узяць удзел у майстар-класах прыходзіць шмат людзей: выкарыстоўваюць магчымасць сумясціць эстэтычнае наталенне з практыкай.

Галоўная мэта выстаўкі — паказаць, што пясочная анімацыя — гэта не толькі шоу, за якім хочацца назіраць, яна дае магчымасць ствараць арыгінальныя творы, як гэта робяць мастакі, якія працуюць з фарбамі. Творцы, якія займаюцца пясочнай графікай, разам з калектывам Нацыянальнага тэатра оперы і балета рыхтуюць спектакль «Каляровыя сны Марка Шагала». У айчыннага гледача будуць яшчэ магчымасці ўпэўніцца, што з дапамогай пяску можна ствараць неверагодныя перформансы, як гэта робяць у многіх краінах свету.

У праекце «Па-за часам» узялі ўдзел трыццаць восем мастакоў з пяці краін: Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы і Малдовы. Усе ўдзельнікі займаюцца актыўным развіццём і папулярызацыяй пясочнай графікі, таму такое інтэрнацыянальнае аб'яднанне ў межах адной выставачнай пляцоўкі — вялікі крок на шляху да прадстаўлення пясочнай графікі не проста як забавы, а як паўнавартаснага віду мастацтва.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Алена Жаміра «Сны» (Расія, г. Варонеж).*

# РАБОТЫ — НА СЦЭНУ!

## У дэкарацыях жыцця Міхаіла Блішча

**Творы мастакоў з гадамі толькі набываюць вагу, а імёны творцаў, якія ўвайшлі ў гісторыю, прыцягваюць на выстаўку, калі значацца на афішы. У гісторыі беларускага мастацтва ёсць такое імя — Міхаіл Блішч. Імя, якое для многіх ужо загадка (мастак пайшоў у іншы свет у 1966 годзе), але яно можа стаць і адкрыццём для аматараў айчыннага мастацтва, якія наведаюць выстаўку ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, прымеркаваную да 100-годдзя Міхаіла Блішча.**



*«Халодны дзень на пляжы», 1950-я гг.*

Ураджэнец вёскі Заспы Рэчыцкага павета Мінскай губерні, ён найбольш ярка рэалізаваўся ў элітным відзе творчасці, калі ствараў дэкарацыі да оперных і балетных спектакляў. Гэтае мастацтва прывабіла юнака настолькі, што амаль два дзесяцігоддзі ён працаваў у Дзяржаўным Вялікім тэатры оперы і балета БССР. Прыйшоў на працу ў якасці мастака-сцэнографа пасля заканчэння Віцебскага мастацкага вучылішча ў 1938 годзе. Ён ствараў дэкарацыі да опер «Алека» С. Рахманінава (1949), «Марынка» Р. Пукста (1955), балетаў «Доктар Айбаліт» І. Марозава (1951), «Жызель» А. Адана (1953), «Лаўрэнсія» А. Крэйна (1955) (гэты спектакль быў адноўлены ў тэатры). Вялікаму тэатру мастак пакінуў насценную размалёўку «Дэман», створаную ў 1958 годзе.

Аднак заставаўся час і для ўласнай творчасці. Міхаіл Андрэевіч Блішч пачаў удзельнічаць у мастацкіх выстаўках з 1939 года. Быў час, калі з мастацтвам давялося расстацца: Міхаіл Блішч абараняў Радзіму на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Выжыў, вярнуўся дадому, да творчасці, да працы, у тым ліку ў тэатры. Яго сцэнаграфія была запатрабавана і на іншых сцэнах краіны. Ён аўтар дэкарацый да драматычных пастановак «Пупсовая кветачка» І. Карнавухавай і Л. Браўсевіча (1952, тэатр імя Я. Купалы), «Гады вандраванняў» А. А. Арбузава (1954, Гомельскі абласны драматычны тэатр). У яго быў уласны стыль: дэкарацыі атрымліваліся рамантычна-ўзнёслыя, паэтычныя, выразныя, таму і шматлікія творчыя калектывы краіны — харавыя і танцавальныя — прыцягвалі яго да супрацоўніцтва.

Тэатральны мастак — асаблівая прафесія. З аднаго боку, людзі могуць бачыць творы даволі часта: спектаклі ў афішы жывуць працяглы час, пакуль з імі не пазнаёміцца вялікая колькасць публікі. А з другога боку, сцэнографы, як правіла, падпарадкаваны рэжысёрскай задуме, да таго ж да іх менш увагі. Міхаіл Блішч быў запатрабаваным сцэнографам і плённым творцам, якога ведалі і любілі. У 1969 годзе, пасля яго сыходу, у Мінску прайшла выстаўка яго твораў. Да іх звярталіся і звяртаюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у калекцыі якога ёсць творы мастака. Знаходзяцца яны і ў фондзе Беларускага саюза мастакоў, музеях Расійскай Федэрацыі.

На юбілейнай выстаўцы сёлета прадстаўлена больш за 50 твораў жывапісу, графічныя работы. Але складана ўявіць гэтага творцу без яго тэатральных работ, таму і частка яго жыцця як сцэнографа таксама раскрываецца. Для фарміравання выстаўкі далучаны экспанаты, якія знаходзяцца ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, у архіве Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, у фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва і Беларускага саюза мастакоў, з прыватнай калекцыі Людмілы Аляксандраўны Бабарыкінай і калекцыі сям'і мастака.

**Марыя АСІПЕНКА**

# У прадчуванні

## Чаго чакаць ад «ТЭАРТа»?

**На пачатку жніўня VII Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ», які пройдзе ў Мінску з 27 верасня па 16 кастрычніка, абвясціў праграму 2017 года. Нягледзячы на тое, што квіткі на пастаноўкі форуму толькі паступілі ў продаж, на некаторыя спектаклі ўжо немагчыма трапіць: сёлета ў межах міжнароднай праграмы ў Мінск з'язджаюцца лепшыя ўзоры тэатральнага майстэрства з Францыі, Італіі, Германіі, Славеніі, Латвіі, Расіі.**



Фота Алекса Астапенкі.

У міжнароднай праграме арганізатары форуму асобна вылучаюць намінантаў расійскай Нацыянальнай тэатральнай прэміі «Залатая маска»: спектаклі «Іванаў» маскоўскага Тэатра Націй ад рэжысёра Цімафея Кулябіна і «Макс Блэк, або 62 спосабы падперці галаву рукой» Электратэатра Станіслаўскі (аўтар — нямецкі рэжысёр, кампазітар і педагог Хайнер Гёбельс). Пастаўлены на п'есе А. Чэхава «Іванаў», па-першае, уражвае акцёрскім складам: выканаўцы галоўных роляў — народны артыст Расіі Яўген Міронаў, Чулпан Хаматава, Лізавета Баярская, Віктар Вяржбіцкі. Па-другое, сцэнічная рэдакцыя, зробленая ў адпаведнасці з патрабаваннямі новага часу (Іванаў Цімафея Кулябіна не дваранін, а офісны супрацоўнік з крызісам сярэдняга ўзросту), абвастрае актуальнасць і без таго жыццёвай п'есы. Спектакль «Макс Блэк, або 62 спосабы падперці галаву рукой» арганізатары форуму смела называюць самай незвычайнай пастаноўкай бягучага года — спалучэнне піратэхнічных эфектаў з фрагментамі запісных кніжак вялікіх мысліцеляў ствараюць паліфанічны эфект.

Увосень беларускага гледача чакае пастаноўка ў стылі *wordless* (без слоў) ад рэжысёра Ліепайскага тэатра Сяргея Землянскага, харэаграфічны спектакль па матывах кітайскага народнага падання ад французскага танцора і харэографа Анжылена Прэльжакажа, «Іліяда» славенскага рэжысёра Ернея Ларэнцы (знаёмага аматарам «ТЭАРТа» па ўдзеле ў форуме ў 2014 годзе) ды шмат іншага.

Практыка мінулых гадоў паказвае, што айчынная праграма на форуме «ТЭАРТ» прыцягвае не менш за міжнародную. Удзел у беларускім шоўкейсе «Belarus Open» возьмуць цікавыя пастаноўкі з усёй краіны. На працягу чатырох дзён госці «ТЭАРТа» ўбачаць 11 беларускіх спектакляў. Сярод іх — надзвычай актуальная ў юбілейны для ўсходнеславянскага кнігадрукавання год «Кар'ера доктара Рауса», прэм'ерная «Anti[gone]» ад трыумфатара мінулага года Аляксандра Марчанкі, сумесная праца Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек і італьянскага рэжысёра Матэа Сп'яцы — камедыя без слоў «Пансіён *"BELVEDERE"*».

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

**Людміла Грамыка, тэатральны крытык, куратар праграмы «*BELARUS OPEN*» на VII Міжнародным форуме тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ»:**

— Праграма «*BELARUS OPEN*» складзена са спектакляў, якія з'явіліся ў Беларусі на працягу апошняга года. У яе ўвайшлі спектаклі з рэпертуарных, незалежных тэатраў, асобныя тэатральныя праекты. У першую чаргу нас вабіла ўся тэатральная прастора краіны, цікавіла тое, чым яна напоўнілася за гэты сезон.

**— Колькі беларускіх тэатраў сёлета падалі заяўкі на ўдзел у VII Міждународным форуме «ТЭАРТ»?**

— Заяўкі на ўдзел у «*BELARUS OPEN*» прымаліся ад усіх, хто захацеў далучыцца да беларускага шоўкейса. Да нас прыйшло больш за 30 заявак ад дзяржаўных і незалежных тэатраў, прафесійных і паўпрафесійных калектываў, якія хацелі б убачыць свае пастаноўкі ў праграме «*BELARUS OPEN*». Акрамя таго, я праглядзела ўсе мінскія прэм'еры, спектаклі, якія дэманстраваліся на беларускіх фестывалях, па магчымасці выпраўлялася і за межы Мінска. На жаль, не ўсе прадстаўленыя да разгляду пастаноўкі давялося паглядзець «жывцом»: нягледзячы на тое, што ў анкеце асобным радком значылася дата найбліжэйшых паказаў, з некаторымі спектаклямі знаёміліся праз відэа, далучаныя да заявак.

**— Чым вылучаюцца адабраныя да ўдзелу ў беларускім шоўкейсе 11 спектакляў?**

— Як куратар праграмы я ацаніла гэтыя 11 пастановак вельмі высока перш за ўсё з пункту гледжання прафесійнага ўзроўню, закладзенай у спектакль сэнсавай ідэі, імкнення выйсці за межы ўсталяваных норм. Усе тэатры, якія ўвайшлі ў праграму «*BELARUS OPEN*», — і «цяжкавагавікі», якія шмат гадоў працуюць з беларускім гледачом, і маладыя, незалежныя праекты — акрамя ўсяго вышэйпералічанага, адзначаны цягай да сапраўднага мастацтва, імкненнем быць не такімі, як усе, адшукаць свой непаўторны шлях у вялікім тэатральным свеце. Там адчуваецца жаданне рэжысёраў і мастакоў выказацца, распавесці ўсяму свету пра нешта такое, аб чым яны не маглі больш маўчаць.

**— Якое значэнне мае «*BELARUS OPEN*» для беларускага тэатральнага працэсу?**

— Паколькі я куратар праекта, мой адказ некаму можа падацца нясціплым, але я насамрэч бачу, што «*BELARUS OPEN*» мае свой уплыў на агульны тэатральны працэс. З гэтага пункту гледжання праграма беларускага шоўкейса зусім неадназначная: многія нашы рэжысёры, якія ў праграму не трапляюць, ставяцца да «*BELARUS OPEN*» даволі рэўнасна і адседжваюцца за тэатральнымі платамі, якія ўзведзены вакол іх тэатраў. А «ТЭАРТ» хацеў бы праз «*BELARUS OPEN*» паказаць людзям, якія прыедуць на наш форум з розных краін, адкрыты беларускі тэатр, дзе можна ўбачыць самыя розныя тэатральныя кірункі, сустрэцца з яркімі рэжысёрскімі асобамі, адкрытымі да дыялогу з чалавекам і з усім светам.

**Гутарыла Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# ТАМ, ДЗЕ ЖЫВЕ СОНЦА

## Чароўны спектакль з лайт-анімацыяй

Спектакль «Начны садоўнік» вылучаецца не толькі сярод лялечных спектакляў краіны, але і сярод большасці пастановак самога тэатра «Дом сонца». Паўнавартасны герой дзеі — малюнак святлом, так званая лайт-анімацыя (ад англійскага слова *light* — святло), які арганічна ўваходзіць у агульную канву спектакля. На маленькай «сцэне» — маленькі горад. Адметна, што людзі і звяры (калі дакладна — каты, што сядзяць на чарапічных дахах утульных домікаў), з якімі ўзаемадзейнічаюць артысты, маляваныя: такім чынам, светлавы малюнак спалучаецца са звычайным. Атмасферу казкі стварае выкарыстанне святлонакапляльных экранаў: у цемры, калі на лялечнай сцэне наступае ноч, пачынаюцца цуды. Заслона вызваляе экран, дзе з дапамогай спецыяльнай указкі рэжысёр і актрыса тэатра Галіна Савельева малюе зорнае неба, котак, соў і нават сланоў. Каб больш зацікавіць маленькага гледача, малюнкі з «Начнога садоўніка» ажываюць, калі наступае сцэнічны дзень: былыя карцінкі ўвасабляюцца ў лялечнае дрэва з незвычайнай формай.

— Мы пазіцыянуем сябе як тэатр лялек, святла і цені, любім выкарыстоўваць светлавыя і ценявыя эфекты, — распавядае рэжысёр і актрыса тэатра «Дом сонца» Галіна Савельева. — Пачыналі з лялек, якія свецяцца ва ўльтрафіялеце. Такія лялькі стваралі чароўны эфект, а чараўніцтва блізкае ўсім людзям незалежна ад узросту. Потым, дзякуючы інтэрнэту, даведаліся, што існуюць адмысловыя святлонакапляльныя экраны з ультрафіялетавымі ўказкамі замест пэндзляў. Я адразу падумала, што гэта можна выкарыстаць у спектаклях, і рушыла за экранам. Навучыцца новай тэхніцы аказалася справай практыкі: трэба спрабаваць, набіваць руку, трэніравацца. Зараз мы не проста малюем святлом, а сумяшчаем гэты малюнак з дзеяннем.



Фота Вольгі Качуры.

*Сцэна са спектакля «Начны садоўнік».*

Тэатр «Дом сонца» існуе ўжо 5 гадоў. Тэхнікі, з якімі ён працуе, здзіўляюць: дзякуючы сучасным матэрыялам, вітражным фарбам і плёнкам, артысты навучыліся ствараць для ценявых спектакляў каляровыя цені, якія выглядаюць на экране як жывы мультфільм. Ідуць у іх і камбінаваныя спектаклі, дзе цені чорна-белыя, а малюнак каляровы. Напрыклад, пастаноўка «Кніга прыпавесцей» для падлеткаў і дарослых (спектаклі «Дома сонца» для дарослых карыстаюцца папулярнасцю: у «Доме Фішэра» на іх заўсёды збіралася публіка) паказвае тры прыпавесці, выкананыя ў розных тэхніках пад жывую музыку. Каляровыя эфекты ўвогуле ўдала спалучаюцца з жывой музыкай, якую забяспечвае супрацоўніцтва з музыкантам Іванам Соласам. Ён выконвае аўтарскую музыку на кельцкай электрарфе і панфлейце. Заўважна, што выкарыстоўваць святлонакапляльныя экраны пачалі для дарослай аўдыторыі: малюнкі святлом суправаджалі канцэрты Івана Соласа яшчэ да з'яўлення «Маленькага вусеня» — першага дзіцячага спектакля з лайт-анімацыяй, дзе ўльтрафіялетам малююць мары вусеня.

— Наш тэатр мае некалькі дабрачынных праектаў, рэгулярна ездзіць выступаць у інтэрнаты, у анкацэнтр — куды паклічуць, — кажа Галіна Савельева. — Вельмі хочацца паказваць нашы тэхналогіі дзецям, якія іх раней не бачылі і могуць нідзе больш не сустрэць.

У галерэі «Універсітэт культуры», дзе быў паказаны «Начны садоўнік», дзеці з задавальненнем далучаліся да спектакля: дапамагалі мяўкаць лялечным коцікам (нават калі гэтай дапамогі наўмысна не прасілі), спрабавалі намаляваць светлавую жывёлу пасля спектакля. Галіна Савельева кажа, што іх тэатр часта сустракаецца з падобнай рэакцыяй. Цікава, што эмацыянальна рэагуюць на ўбачанае не толькі маленькія гледачы. Калі «Дом сонца» паказвае для падлеткаў у інтэрнаце спектакль «Кніга прыпавесцей», юнакі ад 12 да 18 гадоў, у асноўным хлопчыкі, выстраіваліся ў чаргу, каб паспрабаваць сябе ў якасці мастака, які стварае святлом. Здаецца, светлавая анімацыя можа закрануць кожнае дзіця і нават дарослага, асабліва калі спектаклі філасофскія і маюць этычны падмурак.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# ЯШЧЭ АДЗІН

## Навошта Мінску новы кінатэатр?

Днямі ў Мінску адкрыўся самы вялікі мультыплекс у Беларусі. Кінатэатр зможа ўмясціць амаль 1000 гледачоў у сямі высокатэхналагічных залах, работа над якімі вялася тры гады. «ЛіМ» наведаў новую пляцоўку і даведаўся, навошта сталіцы яшчэ адзін кінатэатр, з кім ён канкурыруе і які рэпертуар чакае гледача.



Кінатэатр *velcom* cinema ўваходзіць у сетку *Silver Screen*, якая прыйшла ў Беларусь амаль 5 гадоў таму. Адзін з сузаснавальнікаў сеткі Яніс Гутанс адзначае, што на той момант у нашай краіне кінарынак быў не вельмі развітым, а вартых і сучасных пляцовак не хапала. Менавіта таму ніякай канкурэнцыі новы прыватны кінатэатр не адчуў. Не варта баяцца яе і цяпер, бо кожны кінатэатр так ці інакш мае свайго гледача.

Напрыклад, у новым мультыплексе разлічваюць не толькі на прыхільнікаў самых гучных прэм'ер кшталту амерыканскіх блокбастараў, але і на больш пераборлівага гледача: тут будуць паказваць еўрапейскі артхаус, дакументальнае кіно, незалежныя стужкі ад малавядомых студый. Адным з абавязковых пунктаў рэпертуару былі фільмы на мове арыгінала, шмат увагі ўдзеляць і трансляцыям з адметных культурных і спартыўных мерапрыемстваў, для бяссоннікаў абяцаюць кінаночы. Начальнік аддзела маркетынгу Юлія Дайнека дадае, што кампаніі заўсёды была блізкая тэма роднай мовы. У гэтым кірунку вядзецца шэраг праектаў, таму фільмы ў беларускамоўным агучванні абавязкова будуць паказваць у новым кінатэатры. Таксама трэба разлічваць і на конкурсныя паказы фестывалю мабільнага кіно *Smartfilm*.

Сапраўдным падарункам будуць начныя паказы, бо правесці ноч у новым кінатэатры не павінна стаць пакутай — кожная зала мультыплекса абсталявана неверагодна камфортнымі фатэлямі. Як адзначае Яніс Гутанс, у Мінску вельмі патрабавальны глядач, таму на яго камфорце не эканомяць — укладзеныя ў кінатэатр сродкі вельмі значныя, але канкрэтную суму сузаснавальнік не называе. Зразумець, наколькі вялікія грошы ўкладзены ў мультыплекс, можна па яго напаўненні: у самай прасторнай зале *VOKA* ўсталяваны адмысловыя праектары, якія поўнасцю паглыбляюць гледача ў атмасферу фільма, ствараючы эфект прысутнасці з дапамогай тэхналогіі, якую выкарыстоўваюць у *IMAX* (у Мінску яго дагэтуль няма); кінатэатр уключае таксама дзве *VIP*-залы (на 44 і 48 месцаў) з адмысловай лаўнж-зонай, такую залу можна арандаваць для сваёй кампаніі.

Асобнае пытанне новага кінатэатра — цэны. Квіткі будуць даражэйшымі, чым у іншых кінатэатрах: яны стартуюць ад 7 рублёў, але кошт будзе вар'іравацца ў залежнасці ад залы, месца і часу сеанса. Тым не менш ствральнікі абяцаюць праводзіць сацыяльныя паказы ў межах адмысловых праектаў, таму можна разлічваць на зніжкі. Асаблівай увагі заслугоўвае прыемны інтэр'ер: у афармленні кінатэатра спалучаюцца *hi-tech* і мінімалізм, і памяшканне ўжо не раз параўноўвалі з касмічным караблём (касы выкананы ў стылі плятоўема модуля са стужкі Крыстафера Нолана «Інтэрстэлар»). Вельмі адказна паставіліся і да знешняга выгляду персаналу: форму распрацавала беларускі дызайнер Юлія Латушкіна.

Пакуль невядома, як хутка кінатэатр зможа акупіць свой кошт: ва ўсю сетку *Silver Screen* сродкі ўкладаюцца і цяпер, бо абсталяванне ў залах даводзіцца пастаянна абнаўляць. Тым не менш у жыхароў Уручча нарэшце з'явіўся свой кінатэатр, які выглядае вельмі прывабна не толькі для кінапрагляду, але і для баўлення часу. І таму пытанне канкурэнцыі не такое вострае — гледачоў, якія гатовы плаціць за камфорт, у сталіцы значна больш, чым кінатэатраў.

# Героі, казачнікі і мова

Міністэрства культуры аб'явіла аб пачатку адкрытага конкурсу кінапраектаў: вядома, на якія тэмы будуць здымаць рэжысёры анімацыйнага кіно. Дарэчы, для анімацыйных стужак конкурс стаў паўторным, бо ў мінулы раз патрэбных спецыялістаў па працы над фільмамі не знайшлося. Таксама абвешчана аб правядзенні рэспубліканскага конкурсу сцэнарыяў фільмаў у ігравой форме «Мая Беларусь».

На кожную стужку Міністэрства культуры адводзіць пэўную суму грошай, прычым цяпер яна павялічылася, таму што на мінулым конкурсе пераможцы не былі названы. Але ў палажэнні ёсць заўвага, што аб'ём фінансавання можа быць як павялічаны, так і паменшаны ў залежнасці ад таго, якой сумай будзе валодаць міністэрства. Усяго аніматарам прапануецца зняць 13 стужак на адной з дзяржаўных моў з версіяй з субцітрамі на англійскай: 9 з іх будуць доўжыцца 13 хвілін, 2 — 10 хвілін, а яшчэ 2 — 6 з паловай хвілін. Патрабаванні да вытворцаў стужак засталіся тымі ж: не менш за 70% здымачнай групы павінны быць беларусамі (выключэнне — для праектаў капрадукцыі), прафесійны вопыт кінематаграфістаў не можа быць меншым за 5 гадоў, а таксама ў вытворцаў павінны быць уласныя тэхнічныя і кадравыя магчымасці, неабходныя для стварэння фільма.

Пра што ж будуць разважаць кінематаграфісты? Напрыклад, плануецца ствараць пазнавальныя, прыгодніцкія, выхаваўчыя і казачныя гісторы для дзяцей, распавесці пра гісторыю Беларусі і народны фальклор. Абавязкова павінны быць стужкі, заснаваныя на беларускіх казках для дзяцей, а таксама «Казкі беларускіх сучасных аўтараў» і «Гісторыі з жыцця выдатных людзей». Думаюць і не толькі пра дзяцей, але і пра гледачоў розных узроставых катэгорый: плануюць стварыць некалькі анімацыйных фільмаў для сямейнага прагляду і дарослага гледача. Разглядаць прапановы ад кінарэжысёраў будуць да 17 верасня, а зняць фільмы павінны да 2019 года.

Што тычыцца ігравога кіно, то конкурс "Мая Беларусь" арганізавалі з мэтай адбору высокамастацкіх сцэнарыяў фільмаў аб гісторыі Беларусі, нацыянальных героях, жыцці сучаснай краіны і айчыннай моладзі, а таксама з мэтай выяўлення і падтрымкі таленавітых аўтараў. Арганізавалі кінематаграфічнае спаборніцтва Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм». Узяць удзел у конкурсе могуць аўтары сцэнарыяў, якія з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Арганізатары падзяліліся крытэрыямі, якія стануць ключавымі ў выбары пераможцаў. Па-першае, як канкурсант справіцца з адлюстраваннем значных падзей у гісторыі Беларусі, дасягненняў і надзённых праблем сучаснага жыцця краіны, дзейнасці знакамітых асоб, а таксама актуальных пытанняў грамадзянскага станаўлення маладога пакалення. Па-другое, ці паспрыяе сцэнарый выхаванню ў гледачоў патрыятызму, стварэнню пазітыўнага вобраза Беларусі. Па-трэцяе, наколькі аб'ектыўна і дакладна будуць інтэрпрэтаваны вядомыя гістарычныя факты. Асаблівая ўвага будзе звернута на арыгінальнасць ідэі і падачы і прафесійны ўзровень сцэнарыя.

Конкурс праводзяць па чатырох намінацыях: «Гісторыя Беларусі», «Нацыянальныя героі», «Жыццё сучаснай Беларусі», «Моладзь Беларусі». Пераможцы ў кожнай намінацыі атрымаюць грашовыя прызы: 40, 30 і 20 базавых велічынь за 1, 2 і 3-е месца адпаведна. У сцэнарыстаў ёсць час папрацаваць над матэрыяламі: пачнецца конкурс «Мая Беларусь» 15 верасня і будзе доўжыцца да 15 снежня.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# МАСТАЦКАЯ БЯЗГУЧНАСЦЬ

**Жнівень — усё яшчэ час адпачынкаў, таму чакаць неверагодных кінапрэм'ер не даводзіцца. Але што рабіць, калі добрых фільмаў усё ж хочацца? Застаецца збіраць ураджай кінастужак некалькімі спосабамі: звярнуцца да класікі, незвычайнай кінаформы ці нязвыклых жанраў.**

**1.** Вядомы праект *Cinemascope*, які так палюбіўся гледачам, вырашыў зрабіць ім падарунак: сёлета пачаліся новыя паказы серыі *#shhh* — так арганізатары вырашылі назваць прагляды бязгучнага кіно пад адкрытым небам. Не, гэта не нямыя стужкі, а пераасэнсаванне звычайных кінапаказаў: чаму б не паглядзець кіно ў навушніках, не перашкаджаючы іншым і не пакідаючы камфортных умоў? Паглядзець фільмы можна ва ўнутраным дворыку Музея-майстэрні Заіра Азгура. Напрыклад, 22 жніўня пакажуць бессмяротную класіку Стэнлі Кубрыка «Ззянне» з Джэкам Нікалсанам у галоўнай ролі. Кіно пра пісьменніцкія мары, зімовую працу творцы ў загадкавым атэлі і яго дзіўных адносінах з сям'ёй. А яшчэ праз два дні, 24 жніўня, абавязкова трэба пазнаёміцца з біяграфіяй музыканта Ніка Кейва «20 тысяч дзён на Зямлі»: біяграфія артыста, знятая вельмі нетрадыцыйна для пастановачнай дакументалістыкі, распавядзе не толькі пра жыццё, але і пра ўнутраны стан чалавека, яго падарожжы (у тым ліку і ўглыб самога сябе).





**2.** Нядзеля — самы трапны дзень для мастацтва, падумалі ў кінатэатры «Цэнтральны» і прапанавалі схадзіць на фільм-выстаўку «Я, Клод Манэ» 20 жніўня. Гэта адна са стужак праекта *TheatreHD*, якая ўваходзіць у цыкл #АртЛекторый. Пра мастацтва тут распавядаюць займальна, вось і пра легенду імпрэсіянізму выказаліся небанальна: брытанскі рэжысёр Філ Грабскі вырашыў адкрыць мастака з новага боку нават для прыхільнікаў творчасці Манэ. Як? З дапамогай уласных слоў творцы, якія кінематаграфіст шукаў у лістах і асабістых запісах мастака. Мы ведаем, што менавіта Клоду Манэ абавязаны з'яўленнем тэрміна «імпрэсіянізм» і ўзорных мастацкіх твораў гэтага кірунку. У стужцы ж атрымаўся сапраўды новы партрэт чалавека, які з'яўляецца не толькі пачынальнікам імпрэсіянізму, але і ледзьве не самым уплывовым мастаком XIX і XX стагоддзяў. Фільм пра жыццё Манэ — гэта не толькі гісторыя поспеху творцы, але і яго пакуты ад адзіноты, дэпрэсіі, пошукі выратавання, якое ён, дарэчы, знайшоў у жывапісе.

**3.** Што можа быць лепш за начны кінамарафон? «Ноч кіно» пачнецца ў кінатэатры «Масква» 18 жніўня, а скончыцца ў 6 гадзін раніцы 19 жніўня. Вытрымаеце столькі кінематографа? Абяцаюць тры кінапрэм'еры, і стужкі выдатна пасуюць да адпачынку. Пачнецца ноч амерыканскім баевіком «Целаахоўнік кілера» з Раянам Рэйнальдсам і Сэмюэлам Джэксанам. Здавалася б, лёгкае кіно, але і тут можна знайсці сэнс — як перамагчы сваю «нянавісць», калі гэтая «нянавісць» — твая праца? Гледачы даведаюцца, як можна прымусіць заклятых ворагаў стаць паплечнікамі і разам змагацца за выжыванне. Наступным фільмам будзе расійская камедыя «Бабуля лёгкіх паводзін» — вось дзе сапраўды не трэба напружвацца, а толькі глядзець ды смяяцца. Дарэчы, сюжэт крыху нагадвае легендарнае кіно з Робінам Уільямсам «Місіс Даўтфаер», якое так падабалася ўсім у дзяцінстве. У расійскай версіі нас таксама



чакаюць пераўвасабленні, афёры і нават крыміналісты-ка! Скончыцца «Ноч кіно» французскай меладрамай, якая адкрывала юбілейны 70-ы Канскі кінафестываль: «Прывіды Ісмаэля» з Марыён Каціяр і Шарлотай Гензбур. Фільм-таямніца, дзе рэжысёр Ісмаэль на працягу 20 гадоў разгадвае, чаму знікла яго каханая. Кажуць, час — лекар, таму Ісмаэль знаходзіць новую каханую...

# «ЗА ВАС ЗАЎСЁДЫ ПЕСНЯ ГАВАРЫЛА...»

**…Імя гэтага чалавека на слыху, але далёка не кожны патлумачыць, кім жа ён быў, адкуль яго карані. Размова пойдзе пра народнага артыста СССР Генадзя Іванавіча Цітовіча, які змог сабраць, зберагчы, зрабіць набыткам усёй краіны багаты беларускі фальклор.**



*Генадзь Цітовіч.*

## Як Рэчкі спявалі

Трапіла ў рукі кніжка пісьменніка Дзмітрыя Мікалаевіча Жураўлёва «Генадзь Цітовіч» аб жыцці і творчай дзейнасці майго знакамітага земляка. Але не сустрэла там, што нарадзіўся герой майго апавяду ў Новым Пагосце Мёрскага раёна, як сведчаць біяграфічныя даведкі.

…Хто не ведае як след дарогі, знайсці засценак Рэчкі, дзе нарадзіўся Генадзь Цітовіч, не так лёгка. Чатыры невялікія хацінкі хаваліся ў густым лесе, а дрыгвяністыя балоты надзейна ахоўвалі засценак ад цікаўных. Здавалася, што ніводзін чалавек не пайшоў бы сюды жыць па добрай волі — настолькі глухім і няўтульным здаваўся гэты кут, які невядома чаму называўся Рэчкамі, хоць сапраўдных рэчак тут не было, калі не лічыць невялічкую Мацiцу.

Цяпер там усё ператорана ў агульны масіў пасля меліярацыі зямель. Але жыхары старэйшага ўзросту памятаюць гэтыя мясціны і могуць расказаць пра іх размяшчэнне: дарога вядзе з вёсак Каўшэлева на Запруддзе, Барсучыну і ўпіраецца ў былы засценак Рэчкі Шаркаўшчынскага раёна.

Шмат гадоў назад з'явіўся тут учарашні прыгонны селянін Фадзей Цітовіч і яго жонка Ефрасіння. Гаспадару дазволена было ўзяць замест надзелу зямлі лясныя выгаркі. Пабудаваў ён сабе хату і стаў асвойваць выдзелены ўчастак зямлі. Падрасталі і дапамагалі працаваць сыны: Іван, Сымон, Юстын, Мікалай і дочкі Наталля і Агаф'я. Бацька вырашыў увесь надзел перадаць двум старэйшым сынам, а астатніх далучыць да нейкай іншай справы.

Мікалай вывучыўся на ваеннага фельчара. А самы малодшы сын Іван стаў настаўнікам. Яго размеркавалі на работу ў вёску Вішнёва (цяпер гэта Вішнева Смаргонская раёна Гродзенскай вобласці). Іван ажаніўся з Сусанай Рыгораўнай, якая працавала настаўніцай у вёсцы Замошша (цяпер Браслаўскі раён). На канікулах яны прыязджалі ў Рэчкі, каб дапамагчы па гаспадарцы Іванавым бацькам. І выйшла якраз так, што менавіта тут у ліпені 1910 года нарадзіўся ў іх першы сын Генадзь. Дзед, які быў галоўным у сям'і, не спяшаўся пахрысціць унука. Але надышоў той час, калі трэба было правесці важны абрад: сын запрасіў у якасці хроснага свайго даўняга сябра, мясцовага настаўніка. Павёз дзед унука ў царкву. Тутэйшы настаяцель некуды спяшаўся, хуценька правёў абрад, макнуў нованароджанага ў купель і, адклаўшы запіс у царкоўную кнігу на будучыню, знік. Праз некалькі дзён ён знайшоў ва ўласнай кішэні паперку з імёнамі бацькоў, хросных і нованароджанага «раба божага Генадзя» і, не абцяжарваючы памяці, запісаў у кнігу, што нарадзіўся хлопец у Новым Пагосце ў жніўні.

Дзеці Івана ( у тым ліку і Генадзь) летам жылі ў дзеда ў Рэчках, узімку — у бацькоў у Вішнёва непадалёку ад маляўнічага Вішнёўскага возера. Затым бацькоў перавялі настаўнічаць у вёску Дубатоўку, што каля Смаргоні.

Калі пачалася імперыялістычная вайна, бацьку забралі ў армію. Нямецкія войскі набліжаліся да Вільні, і каб не аказацца ў акупацыі, сям'я рушыла на ўсход. Іван Цітовіч скончыў ваеннае вучылішча ў Чугуеве і атрымаў прызначэнне ў Яраслаўль. Сюды прыехала і жонка з Генадзем і маленькім Аляксандрам. Потым сям'я жыла ў Вятцы, у Арлове. Калі дачакаліся вызвалення родных мясцін ад ворага, зноў пераехалі да дзеда ў Рэчкі. Бацька аказаўся на фронце. Пайшлі на фронт і дзядзькі. У хаце засталіся адны старыя ды малыя.

## Боская прырода гукаў

Неўзабаве прыйшла вестка аб Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года, а праз некалькі месяцаў дакацілася водгулле Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе. Радзіма зноў апынулася пад пагрозай нямецкай акупацыі, потым прыйшлі польскія салдаты. Не было міру на зямлі…

Новую прафесію абраў Іван Фадзеевіч. Вырашыў былы настаўнік здаць іспыты за поўны курс семінарыі. З 1920 года змог рукапалажыцца ў святары, стаў айцом Іаанам у вёсцы Новы Пагост (Мёрскі раён). Потым служыў у Шкунціцкай царкве (Шаркаўшчынскі раён), у Рымках (Пастаўскі раён) і завяршыў сваю службу ў Лужках (Шаркаўшчынскі раён).

Генадзю было ўжо трынаццаць, а ён, як і ўсе дзеці ў сям'і, не хадзіў у школу (з імі займаліся бацькі). Восенню 1924 года Генадзь разам з бацькам паехаў у Вільню, каб атрымаць адукацыю. Праз некалькі дзён ён трымаў экзамены за першыя два класы і стаў выхаванцам трэцяга класа Віленскай праваслаўнай духоўнай семінарыі. Яна размяшчалася ў былым Троіцкім манастыры. Любімым заняткам Генадзя былі песні і музыка — духоўны аркестр і хор. На рэпетыцыях спявалі музыку Лядава, Рымскага-Корсакава, Чайкоўскага, Вярстоўскага, «Мроі» Шумана, хоры салдат з «Фаўста» Гуно і многія іншыя ўрыўкі з разнастайных опер.

На фарміраванне асобы Цітовіча аказаў вялікі ўплыў Рыгор Шырма, з якім ён быў знаёмы з 1926 года. На кватэры ў Рыгора Рыгоравіча Цітовіч сустракаўся з выдатнымі дзеячамі культуры Заходняй Беларусі: Максімам Танкам, Пятром Сергіевічам і Язэпам Драздовічам.

З нецярплівасцю Генадзь чакаў калядных, велікодных, летніх канікул, каб паехаць да бацькі ў Рымкі ці да дзеда і бабулі ў Рэчкі. Вельмі прыцягвалі яго песні бабулі і захапляў яе цудоўны голас.

Надзвычай добрую школу харавых спеваў прайшоў Генадзь у класе Беера і хоры Шырмы. Неўзабаве Генадзь стаў удзельнікам хору. Пастуціць у кансерваторыю? Нечакана разважанні і сумненні скончыліся, як толькі ён прыехаў на лета ў Рэчкі: у сям'і вырашылі, што трэба працягваць вучыцца.

Стаў студэнтам прыродазнаўча-матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта. Асабліва падабаліся лекцыі і практычныя заняткі па метэаралогіі, анатоміі. Ва ўніверсітэце быў арганізаваны хор, дзе Цітовіч праяўляў свае здольнасці да музыкі.

Мара ажыццявілася. У 1934 годзе Генадзь паступіў у кансерваторыю, але ўніверсітэта не кінуў. Скончыў яго і цалкам аддаўся музыцы. А ў 1936 годзе ён, працягваючы займацца ў кансерваторыі, становіцца студэнтам факультэта гуманітарных навук Віленскага ўніверсітэта кафедры этнаграфіі.

Яшчэ ў дзяцінстве Генадзю хацелася захаваць у памяці ўсё, што спявала некалі бабуля, і ён стаў наведваць у найбліжэйшыя вёскі, а ў час летніх канікул зрабіў сапраўднае фальклорнае падарожжа на лодцы і плытах па Дзісне аж да яе ўпадзення ў Заходнюю Дзвіну.

У студэнцкім хоры спявала маладая студэнтка-медычка. Сярод студэнтак яна была самая прывабная і здольная да песень. Яна захапіла сэрца Генадзя, і ў 1937 годзе яны з Вольгай Строк згулялі вяселле. Генадзю Іванавічу да сканчэння кансерваторыі заставалася два гады, таму застаўся ў Вільні, а Вольга Мацвееўна пасля заканчэння ўніверсітэта атрымала пасаду правізара ў Вышкаве, невялікім гарадку пад Варшавай.

У 1939 годзе Генадзь Цітовіч скончыў кансерваторыю. Вольга рыхтавалася да пераезду ў Вільню, а Генадзь накіраваўся ў чарговую экспедыцыю. Яго цікавілі польска-ўкраінскія фальклорныя ўзаемасувязі. Аднак гэтае апошняе веласіпеднае падарожжа этнографа па Польшчы давялося спыніць. Адчувалася набліжэнне вайны, Цітовічы рушылі на ўсход.

## Хросны бацька ў мастацтве

Яны апынуліся ў Лужках, дзе ў той час жыў бацька Генадзя. Уладкаваўшыся часова настаўнікам у Паставах, Цітовіч напісаў у Мінск ліст з прапановай выкарыстаць яго па спецыяльнасці. Хутка атрымаў прызначэнне на пасаду адказнага рэдактара музычнага вяшчання радыёстанцыі ў Баранавічах. Справы на радыё ішлі добра. Абжываліся ў новай кватэры, нарадзілася першая дачка Таццяна.

Пры набліжэнні фашыстаў пакінуць горад не ўдалося, сям'я галадала. Аднойчы Генадзь Іванавіч сустрэў доктара Уладзіміра Лукашэню. Той паспрыяў, каб Генадзь з жонкай уладкаваліся ў Ляхавіцкую аптэку. Яны дапамагалі партызанам лекамі. Нямецкая разведка пра гэта даведалася, давялося ўцякаць. Цітовічы апынуліся ў Навагрудку. Калі Савецкая Армія вызваліла Беларусь ад нямецкіх акупантаў, сям'я вярнулася ў Баранавічы.

Генадзь Іванавіч атрымаў прызначэнне на пасаду адказнага рэдактара «Апошніх паведамленняў». Пазней ён быў вызвалены ад абавязкаў рэдактара і прызначаны намеснікам начальніка абласнога аддзела мастацтваў. Тут перад ім адкрываліся бязмежныя творчыя магчымасці для прымянення сваіх ведаў.

Работа з дакументамі не вельмі натхняла, Генадзя Іванавіча «панізілі» на пасадзе — ён перавёўся ў абласны Дом народнай творчасці метадыстам-кансультантам. Наступнае прызначэнне Цітовіча — мастацкі кіраўнік Міжабласнога ансамбля песні і танца ў горадзе Маладзечне. Заўважыўшы плённую творчую працу Цітовіча, у 1951 годзе яго запрашаюць у Мінск старшым метадыстам Рэспубліканскага дома народнай творчасці.

Праз год Генадзя Іванавіча чакаў новы паварот у жыцці. У самым пачатку 1952 года быў заснаваны Дзяржаўны акадэмічны народны хор БССР, і кіраўніком прызначылі Цітовіча.

Калектыў удзельнічаў у розных мастацкіх міжнародных конкурсах, аб'ездзіў усю Беларусь і пабываў за мяжой. Сам Генадзь Іванавіч вандраваў па ўсёй рэспубліцы ў пошуках народных песень. Пабываў не адзін раз у розных гарадах і вёсках, нават у самых закінутых.

Праз 10 гадоў Генадзь Іванавіч стварыў яшчэ адзін цудоўны калектыў — жаночы вакальны квартэт «Купалінка». За перамогу на міжнародным фестывалі ў Балгарыі квартэт атрымаў Вялікі залаты медаль. У 1968 годзе Генадзю Іванавічу Цітовічу прысвоена званне «Народны артыст Савецкага Саюза». У 1974 годзе ён перадаў кіраўніцтва хорам Міхаілу Паўлавічу Дрынеўскаму, якога лічыў сваім творчым сынам.

У 1978 годзе за стварэнне «Анталогіі беларускай народнай песні» і выданне кнігі «Аб беларускім песенным фальклоры» Генадзю Іванавічу Цітовічу прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР.

Хросным бацькам у мастацтве назваў Г. Цітовіча Іван Краснадубскі, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, народны артыст Рэспублікі Беларусь. Бацькі яго жылі ў Лужках. Маці Генадзя і Івана сябравалі. Аднойчы, калі Генадзь Іванавіч гасцяваў у бацькоў, маці Івана звярнулася да яго з просьбай: «Паслухай ты майго мальца, добра спявае, баюся, каб тут не прапаў». Паслухаўшы, Генадзь накіраваў хлопца на абласны конкурс у Віцебск. Пасля перамогі на ім Іван Краснадубскі перамог на рэспубліканскім конкурсе з песняй «Нёман».

«Так здарылася, што яго бацька, айцец Іаан, у 1947 годзе хрысціў мяне ў царкве ў Лужках, а сам Генадзь Іванавіч стаў хросным бацькам у мастацтве», — узгадваў Іван Краснадубскі.

## «...З вамі гаварыць»

— Я нарадзіўся ў адным з тых чатырох дамоў, што мясціліся ў Рэчках, — узгадвае Дзмітрый Мікалаевіч Цітовіч (Шаркаўшчына). — Калі Генадзь Іванавіч жыў ужо ў Мінску, я, яго стрыечны пляменнік, прыйшоў з Арміі, у 1969 — 1970 гадах жыў у яго на кватэры і рыхтаваўся да паступлення ў БДУ. Калі Таццяна, дачка Генадзя Іванавіча, мела праблемы з паступленнем у БДУ, ён не стаў ёй дапамагаць. Я самастойна рыхтаваўся да паступлення на фізкультурны факультэт, скончыў яго, стаў настаўнікам фізічнай культуры і ўсё жыццё працаваў у школе. Мой дзядзька быў вельмі сціплы. Заўсёды ездзіў грамадскім транспартам. Людзі часта яго пазнавалі, віталіся, прасілі аўтограф. Ён вельмі любіў расказваць анекдоты, выпадкі з жыцця. Сыходзіўся з людзьмі рознага ўзросту імгненна. Генадзь Цітовіч пражыў на гэтай зямлі 76 гадоў, мог бы і больш, але вельмі шмат курыў, не шанаваў свае лёгкія.

Пасля сябе Генадзь Цітовіч пакінуў жонку, якая да 80 гадоў працавала ў аптэцы. Дочка Людміла скончыла БДУ, факультэт замежных моў, жыве ў Амерыцы. Туды выехала і яе сястра Таццяна. Святлана стала артысткай балета, паехала на гастролі ў Нарвегію, дзе і засталася.

Генадзь Цітовіч меў вялікую бібліятэку (больш за 20 000 тамоў), якую пачаў збіраць яшчэ яго бацька. Увесь гэты скарб ён перадаў у Нацыянальную бібліятэку.

Фалькларыст, этнограф, вучоны-музыказнаўца быў яшчэ аўтарам шматлікіх арыгінальных песень і больш як 60 апрацовак народных мелодый. Паэт Уладзімір Карызна прысвяціў Цітовічу верш «Песня памяці», у якім ёсць такія радкі: «За вас заўсёды песня гаварыла. І будзе вечна з вамі гаварыць…».

**Падрыхтавала Кацярына СОСНА, ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# ГУЛІВЕР У «КРАІНЕ МІНІ»

**Паўгода таму ў цэнтры Мінска адкрыўся ўнікальны музей «Краіна міні». У ім размешчаны мініяцюрныя копіі самых цікавых мясцін Беларусі. Гэтыя славутасці імкнецца ўбачыць кожны госць нашай краіны, але не заўсёды мае даволі часу. Цяпер з'явілася магчымасць за дзве гадзіны ўважліва разглядзець самыя знакамітыя палацы і замкі.**



*Лідскі замак.*

Экспазіцыя можа стаць зыходнай кропкай для падарожжа па краіне, бо наведвальнікі абавязкова захочуць убачыць экспанаты ўжывую. У музеі экскурсаводы распавядаюць гістарычныя факты і захапляльныя легенды пра нашы славутасці, што дазваляе больш даведацца пра культуру Беларусі.

Сёння ў музеі «Краіна міні» прадстаўлена 18 архітэктурных макетаў адметных мясцін. Сярод іх Брэсцкая крэпасць, Нясвіжскі замак, Траецкае прадмесце, касцёл Святых Сымона і Алены, Магілёўская Мікалаеўская царква, Гомельскі палац Румянцавых-Паскевічаў і іншыя. Таксама можна ўбачыць дакладную копію Крэўскага замка, разбуранага ў XIV стагоддзі.

21 ліпеня музей мініяцюр прадставіў чарговы макет — копію Вялікага тэатра оперы і балета. Над ім працавалі некалькі месяцаў і выкарысталі больш за пяць тысяч дэталяў. Макет можна ўбачыць на захадзе сонца і ў святле вулічных ліхтароў. А яшчэ зазірнуць у самае прывабнае месца любога тэатра — за кулісы. Націскаем на кнопку, сцяна макета апускаецца, і маленькія артысты ладзяць рэпетыцыю...

Экспазіцыя музея будзе актыўна пашырацца і ўдасканальвацца. Плануецца стварэнне 70 макетаў, якія ў поўнай меры прадставяць разнастайнасць і прыгажосць культурных аб'ектаў усіх рэгіёнаў Беларусі. Усе славутасці былі адабраны па прынцыпе гістарычнай і культурнай значнасці, а таксама ў прывязцы да розных абласцей краіны. Кожны макет — гэта аднолькавая дакладная копія славутасці і навакольнай мясцовасці. Да таго ж каля палацаў і храмаў абавязкова адбываецца нешта цікавае: рыцарскі турнір, бітва з ворагамі, урачыстая працэсія... Гістарычныя сцэны дазваляюць паглыбіцца ў мінулае. Госці музея становяцца актыўнымі ўдзельнікамі экскурсіі, бо ўсе макеты маюць агульную «фішку»: пры націску кнопкі мяняецца час сутак.



*Касцёл святых Сымона і Алены ў Мінску.*



*Вялікая харальная сінагога ў Гродне.*

Арганізатары імкнуцца стварыць цікавае, камфортнае месца для дзяцей, дарослых і турыстаў. Наведвальнікі змогуць прыняць удзел у склейванні замка ў макетнай майстэрні. У музеі будуць ладзіцца ўрокі гісторыі, працы, выяўленчага мастацтва. Сёння тут працуюць розныя мультымедыйныя зоны, ёсць фотапакой для сэлфі, сувенірная крама, месца адпачынку з кафэ і студыя майстар-класаў для дзяцей. Каб наведвальнікі адчувалі сябе ўтульна, супрацоўнікі музея зычліва прапаноўваюць бясплатную гарбату ці каву. Да таго ж у музеі можна скарыстацца бясплатным аўдыягідам або спампаваць яго на смартфон. Аўдыягід дае турыстам карысныя рэкамендацыі, як дабрацца да славутасцей і дзе спыніцца.

«Краіна міні» — адзін з падарункаў да 950-годдзя Мінска, дзе можна адчуць сябе сапраўдным беларускім Гулівером!

**Максім БІЧАХЧАН, фота аўтара**

## *Культурны ракурс*



Яшчэ ў дзяцінстве я ведала, што непадалёк маёй вёскі на Ашмяншчыне ёсць мястэчка Гервяты. І вось праз шмат гадоў, дзякуючы майму пляменніку і яго жонцы, змагла наведаць гэтую вёску ў Астравецкім раёне. Пры ўездзе ў цяперашні аграгарадок здзіўляе і адразу захапляе сваёй веліччу касцёл Святой Тройцы — храм незвычайнай прыгажосці. Гэты помнік архітэктуры ўключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Каталіцкі прыход у Гервятах заснаваны ў 1526 годзе, тады ж пабудавалі невялікі драўляны храм. У 1899 — 1903 гадах на яго месцы па праекце архітэктара Вацлава Міхневіча ўзвялі велічны каменны касцёл. Згодна з летапісам, кожны дзень на будаўніцтве было занята больш як 70 чалавек, а за мястэчкам спецыяльна заснавалі цагельны завод, на якім выраблялі высакаякасную цэглу для храма. Вапну здабывалі з вапнавых камянёў, якія бралі ў рацэ Лошы. Для трываласці ў вапнавы раствор дадавалі яйкі, якія тысячамі пастаўлялі мясцовыя жыхары. Чарапіцу для даху прывозілі з Германіі.

Гервяцкі касцёл уваходзіць у тройку самых высокіх храмаў Беларусі (вышыня яго званіцы — 61 метр), гэта прыклад самага лепшага ўзору неагатычнага стылю ў Беларусі. Многім ён нагадвае заходнееўрапейскія будынкі, якія заўсёды захаплялі сваёй прыгажосцю.

Калі мы ўвайшлі ў касцёл, дыханне перахапіла ад незвычайнай прыгажосці. Мы быццам апынулася ў казцы. Уражваюць вышыня столі, алтар, упрыгожаны кветкамі, ды і сама атмасфера, якая пануе ў велічным храме. У яго двары таксама вельмі прыгожа. Тут мы ўбачылі бярозку з галінкамі, нахіленымі ўніз, экзатычныя дрэвы, яркія кветкі, але самую вялікую цікавасць выклікалі фігуры дванаццаці апосталаў. Узнікае ўражанне, што апосталы быццам увесь час назіраюць за табой.

Храм называюць «маленькай Швейцарыяй» і «беларускім Нотр-Дамам». Паводле шматлікіх апытанняў, ён лічыцца самым прыгожым касцёлам нашай краіны. Убачыўшы гэтае тварэнне рук чалавечых, гэты цуд, пачынаеш яшчэ больш любіць сваю родную Беларусь.

**Вольга КУЦ**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

Выходзіць з 1932 года

16 +

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

**Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:**
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
17.08.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1531.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2991

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686